# САВЕТЫ БЕЛАРУСІ

Штомесячны часопіс прэзыдыуму ЦВК БССР
па савецкім будаўніцтве

№ 1—2 (15—16) Студзень—Люты 1930 г. № 1—2 (15—16)

## ЗА КЛЯСАВА-БОЯЗДОЛЬНЫЯ СЕЛЬСАВЕТЫ—ОРГАНЫ ДЫКТАТУРЫ ПРАЛЕТАРЫЯТУ НА ВЁСЦЫ.

# Пастанова бюро ЦК КП(б)Б

## аб справаздачна-перавыбарчай кампаніі і задачах саветаў у сувязі з масавай калектывізацыяй.



1. Далейшае пасьпяховае выкананьне задач па сацыялістычнай рэканструкцыі народнае гаспадаркі, правядзеньне суцэльнай калектывізацыі ўсіх бядняцка-серадняцкіх гаспадарак БССР, ажыцьцяўленьне палітыкі ліквідацыі кулацтва як клясы, што зьяўляецца арганічнай часткай масавай калектывізацыі, і канчатковае выкарчоўваньне ўсіх капіталістычных элемэнтаў, а таксама найбольш хуткае вырашэньне задач культуры, ускладаюць на саветы, як органы пралетарскай дыктатуры, шэраг новых і адказьнейшых задач.

Ажыцьцяўленьне гэтых задач можа быць забясьпечана пры ўмове суровага правядзеньня выразнай клясавай лініі ў рабоце саветаў, максымальнага ўзмацненьня і ўзьняцьця аўтарытэтнасьці і кіруючай іх ролі да калгасаў і калгаснага будаўніцтва, а таксама пры забясьпечаньні належным кіраўніцтвам бязьлітаснай барацьбы з кулацтвам, кіраўніцтва практычным ажыцьцяўленьнем палітыкі ліквідацыі кулацтва як клясы, і рашучым ачышчэньнем сельскіх саветаў ад кулацкіх і іншых варожых элемэнтаў.

Таму аднэй з галоўнейшых і неадкладнейшых задач партыйных арганізацый павінна быць перабудова работы саветаў, карэнная зьмена форм і мэтадаў іх работы з тым, каб згуртаваць батрацка-бядняцкае ядро ў саветах і навакол іх і на гэтай аснове ўзмацніць пралетарскае кіраўніцтва калгасным рухам.

2. Шпаркі тэмп калектывізацыі вёскі і практычнае ажыцьцяўленьне ліквідацыі кулацтва як клясы выклікае яшчэ большае абвастрэньне клясавай барацьбы, рашучае адстайваньне кулацтвам сваіх пазіцый і нябывалае супраціўленьне, якое ў бліжэйшы пэрыяд будзе прымаць самыя рэзкія і адкрытыя формы (тэрор, падпалы і г. д.). Пры гэтых умовах павінны быць асабліва ўзмоцнены органы пралетарскай дыктатуры—саветы.

Калгасы ні ў якай меры ня могуць і не павінны супроцьпастаўляцца саветам. Усялякія імкненьні і спробы ліквідаваць сельсаветы ці прынізіць іх кіруючую ролю шляхам перадачы ўсіх альбо часткі функцый і правоў сельсаветаў праўленьням калгасаў, адбіваюць фактычна імкненьне і жаданьні клясавых ворагаў і іншых контррэволюцыйных элемэнтаў падарваць дыктатуру пралетарыяту і паслабіць сілу яго органаў.

3. Неадкладная перабудова работы сельсаветаў павіннаісьці на даным этапе пад лёзунгам „тварам да калга-

саў“, „за хутчэйшае выкананьне задачы суцэльнай калектывізацыі, за ліквідацыю кулацтва як клясы, за рашучае ўзмацненьне ўплыву ў саветах батрацтва і беднаты, узмацненьне работы батрацка-бядняцкіх груп і за ўзмацненьне бядняцка-серадняцкага блёку ў барацьбе супроць капіталістычных элемэнтаў, за сацыялістычную сельскую гаспадарку, за поўнае выкананьне мерапрыемстваў, зьвязаных з пасеўкампаніяй“.

Справаздачна-перавыбарчая кампанія павінна зьявіцца магутным зьнішчаючым ударам па ўсіх кулацкіх і іншых варожых элемэнтах, якія імкнуцца перашкодзіць і зрываць работу па сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі.

Выходзячы з задач, якія стаяць перад саветамі на даным этапе сацыялістычнага будаўніцтва, Бюро ЦК КП(б)Б *пастанаўляе*:

1. Правесьці на працягу з 15-га лютага па 15 сакавіка перавыбары саветаў у раёнах і сельсаветах суцэльнай калектывізацыі, а таксама і тых саветаў, якія не праявілі сябе ў справе арганізацыі беднаты і батрацтва і калектывізацыі, скажаўшых клясавую лінію партыі, засьмечаных варожымі і чужымі элемэнтамі і тых саветаў, якія не забясьпечваюць актыўнага цьвёрдага кіраўніцтва ў справе калектывізацыі і ліквідацыі кулацтва як клясы.

2. Праводзячы перавыбары тых сельсаветаў, якія стаяць у баку ад працы па сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі, неабходна правесьці самую пільную праверку кожнага сябра савету і тых сельскіх саветаў, якія не пераабіраюцца цалкам, наколькі была забясьпечана клясавая лінія ў рабоце кожнага сябра савету, наколькі яны садзейнічалі калектывізацыі і былі зьвязаны з сваімі выбаршчыкамі.

У дачыненьні да тых сяброў сельсаветаў, што скрыўлялі клясавую лінію, пасыўна адносіліся да калгаснага будаўніцтва і клясавай барацьбы, якая разгортваецца вакол яго, і выступаюць супроць калектывізацыі, як найшырэй павінна выкарыстоўвацца права выбаршчыкаў на адкліканьне з саветаў. Адначасова ўсямерна неабходна даваць рашучы адпор спробам кулацтва дыскрэдытаваць тых працаўнікоў, якія ў сваёй працы правільна і выразна праводзілі пралетарскую клясавую лінію. Такіх працаўнікоў патрэбна абараняць і падтрымліваць.

3. Партыйныя арганізацыі і фракцыі АВК і РВК павінны зрабіць усё неабходнае, каб кампаніяй былі сапраўды ахоплены пагалоўна ўсе працоўныя масы, пры найшырэй разгорнутай пралетарскай дэмакратыі, падвергнуўшы шырокай пралетарскай крытыцы і самакрытыцы ўсю работу саветаў з пункту погляду таго, як выконвалася саветамі генэральная лінія партыі ў галіне сацыялістычнай рэканструкцыі гаспадаркі, наколькі былі ўцягнуты ў работу саветаў працоўныя масы. Трэба, каб праверка работы і справаздачнасьць саветаў набылі характар масавага генэральнага агляду дзейнасьці іх.

Неабходна паставіць практычнай задачай і дабіцца пагалоўнай яўкі выбаршчыкаў на справаздачна-выбарчыя сходы саветаў.

4. Для забесьпячэньня пасьпяховага выкананьня задач справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў неабходна ўсюды правесьці самую шырокую падрыхтоўчую працу сярод батрацтва і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі і калгасьнікаў, шляхам абгаварэньня пытаньняў, зьвязаных з перавыбарамі сельсаветаў і асобных сяброў саветаў, праэктаў наказаў, кандыдатур у саветы і г. д. на сходах батрацтва і беднаты, на паседжаньнях батрацка-бядняцкіх груп, на дэлегацкіх сходах, на сходах калгасьнікаў і г. д.

ЦК зварочвае асаблівую ўвагу партыйных арганізацый на неабходнасьць правядзеньня падрыхтоўчай працы сярод батрацка-бядняцкіх жаночых мас.

Актыўнасьць працоўных жанчын, якая значна ўзьнялася ў мінулую перавыбарчую кампанію, яшчэ больш павінна быць павялічана і яшчэ больш неабходна пашырыць уцягненьне працоўных жанчын у выбарчыя органы саветаў.

Асабліва неабходна ў перавыбарчую кампанію зьнішчэньне рэштак адзінага нацыянальнага блёку ў паселішчах нацыянальных меншасьцяў, дзе яшчэ месцамі пад прыкрыцьцём гэтага блёку варожыя—кулацкія і іншыя антысавецкія сілы вядуць барацьбу супроць калекты-

візацыі і мерапрыемстваў партыі і ўлады, імкнучыся перацягнуць на свой бок беднату і сераднякоў. Таму работу сярод батрацтва і беднаты, растлумачэньне класавай сутнасьці гэтага блёку неабходна як мага ўзмацніць, супроцьпаставіўшы ідэі нацыянальнага адзінства, адзіны клясавы фронт працоўных усіх нацыянальнасьцяў.

5. Надзвычайная ўвага і вялікая масавая падрыхтоўчая работа павінна быць праведзена па пытаньнях падбору і падрыхтоўкі кандыдатур у саветы з боку ўсіх партыйных арганізацый. Кожная кандыдатура, якая высоўваецца ў саветы, павінна быць абгаворана на сходах партыйных ячэек, пасяджэньнях батрацка-бядняцкіх груп і сходах беднаты і батрацтва. Неабходна забясьпечыць актыўны ўдзел у абгаварэньні і адстойваньні кандыдатур партыйных ячэек з боку кожнага камуніста і актыўнага падтрыманьня з боку камсамольцаў.

У новым складзе саветаў павінен узмацніцца партыйны ўплыў і рашуча палепшыцца сацыяльны склад. У складзе сельскіх саветаў павінна быць забясьпечана перавага рабочых, батракоў і беднякоў, разам з гэтым трэба рашуча павялічыць уцягненьне ў саветы работніц, батрачак і бяднячак.

6. Прапанаваць акругкомам, РК і ячэйкам КП(б)Б забясьпечыць цьвёрдае партыйнае кіраўніцтва справаздачнай і перавыбарчай кампаніяй саветаў і неадкладна разгарнуць падрыхтоўку да гэтай кампаніі.

Кампанія павінна быць выкарыстана для шырокага разгортваньня сацыялістычнага спаборніцтва паміж калгасамі, сельсаветамі і раёнамі на лепшае выкананьне плянаў сельска-гаспадарчай кампаніі, узмацненьне калгасаў (абагуленьне сродкаў вытворчасці, рост непадзельных капіталаў, стварэньне насенных фондаў і г. д.)

7. Неабходна забясьпечыць справаздачна-перавыбарчую кампанію саветаў усямерным удзелам і дапамогай з боку ўсіх партыйных, прафэсыянальных і грамадзкіх арганізацый гораду. Пралетарыят гораду павінен дапамагчы вясковым арганізацыям э правядзеньні гэтай кампаніі мэтадам шырока разгорнутай пасылкі рабочых брыгад, якія павінны дапамагчы ў арганізацыі наступу бядняцка-серадняцкага блёку на кулака для зьнішчэньня яго як клясы.

Для правядзеньня справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў скарыстаць у асноўным таварышоў, мабілізаваных для правядзеньня вясеньняй пасеўнай кампаніі, павялічыўшы лік камандыраваных для гэтай мэты прыкладна на 1/3. АК арганізаваць пасылку рабочых брыгад з складу рабочага гарсавецкага актыву.

8. Акругкомам і райкомам КП(б)Б неабходна выключную ўвагу сканцэнтраваць на справе падрыхтоўкі палітычнай і практычнай часткі наказаў, каб яны былі сапраўднымі дырэктывамі для саветаў і кожнага іх члена ў штодзённай рабоце і выхавальнікамі ўсёй масы выбаршчыкаў у справе ажыцьцяўленьня сацыялістычнай рэканструкцыі краіны, ліквідацыі кулацтва як клясы і ўзмацненьня абароназдольнасьці краіны.

9. Партарганізацыі ў першую чаргу, а таксама прафсаюзы, у прыватнасьці саюз СГЛР, комсамол, жаночыя дэлегацкія сходы і КСУ, якія непасрэдна дэлегуюць сваіх прадстаўнікоў у склад выбарчых камісій, павінны прыняць у іх утварэньні самы актыўны ўдзел і забясьпечыць пераважна рабочы і батрацка-бядняцкі працаздольны склад выбарчых камісій. Асаблівая ўвага выбарчых камісій павінна быць зьвернута на забясьпечаньне правільнага складаньня сьпісаў выбаршчыкаў і выяўленьне асоб, пазбаўленых выбарчага права.

10. Вялікую ролю ў справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў павінен адыграць друк, высьвятляючы найшырэй дасягненьні і адмоўныя бакі ў працы саветаў, асноўныя задачы працы іх і ход справаздачна-перавыбарчай кампаніі.

11. Выходзячы з таго, што сельсаветы павінны стаць на чале калгаснага руху, павінны забясьпечыць рашаючыя посьпехі сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі праз калгасы, а таксама стаць на чале ліквідацыі кулацтва, як клясы, важнейшымі задачамі саветаў на даным этапе зьяўляюцца наступныя:

а) сельсаветы павінны зьявіцца арганізатарамі батрацка-бядняцкіх і серадняцкіх мас у справе разьвіцця сацыялістычнай сельскай гаспадаркі, павінны стаць на чале работы па ліквідацыі

кулацтва як клясы, і поўнасьцю адказваць за гэтую справу;

б) сельсаветы павінны кіраваць усёй работай па ўтварэньню калгасаў на тэрыторыіі сельсаветаў, кіраваць жыцьцём утвораных ужо калгасаў і існуючымі на тэрыторыі сельсаветаў саўгасамі.

в) сельсаветы павінны завесьці, як сыстэму, справаздачнасьць калгасаў перад саветамі, не дапушчаючы аднак дробнай апекі і адміністрацыйнага ўмешваньня саветаў ва ўнутранае жыцьцё калгасаў;

г) сельсаветы павінны ўзяць на вучот усе кулацкія гаспадаркі, іх сродкі вытворчасьці, кіраваць выняцьцем гэтых сродкаў вытворчасьці для перадачы бліжэйшым калгасам і саўгасам, а таксама наглядаць за тым, каб кулакі ня прымаліся ў калгасы і каб усе калгасы былі ачышчаны ад кулацкіх элемэнтаў;

д) сельсаветы павінны ўзмацніць сваю адміністрацыйную работу ў адпаведнасьці з новымі задачамі, выходзячы з таго, што рашучы наступ на капіталістычныя элемэнты вёскі, ліквідацыі кулацтва як клясы, выклікае жорсткае супраціўленьне з боку кулацтва. Сельсаветы павінны прымаць усе меры для зьнішчэньня ў корані ўсялякіх праяў контр-рэвалюцыйнай дзейнасьці кулацтва;

е) сельсаветы павінны перабудаваць сваю работу ў галіне камунальнай, культурнай і бытавой у адпаведнасьці з неабходнасьцю прыстасаваньня яе да ўмоў суцэльнай калектывізацыі;

ж) сельсаветы павінны рашуча змагацца з ілжэкалгасамі;

12. Важнейшай задачай сельсаветаў у вясну бягучага году трэба лічыць пясьпяховае правядзеньне пасеўнай кампаніі, якая павінна забясьпечыць выкананьне ўсіх заданьняў па пасеўнай кампаніі, вызначаных пастановамі ўраду, забясьпечыўшы стопроцантны засеў вынятай у кулакоў зямлі і рашуча дамагчыся таго, каб вытворчасьць калгасаў на гэтых землях была ня ніжэй вытворчасьці кулацкіх гаспадарак.

5-га лютага 1930 году.

---

**Усю ўвагу сельсаветаў—на будаўніцтва, пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, сацыялістычнай сельскай гаспадаркі.**

---

**Ачысьцім саветы ад клясавага ворага і яго агентаў.**

---

**Рабочыя і работніцы, працоўныя ўсіх нацыянальнасьцяў—усе, як адзін, на справаздачныя сходы і перавыбары саветаў.**

---

**Пераабярэм саветы, якія няздольны ажыцьцяўляць палітыку партыі і савецкай улады на сучасным этапе сацыялістычнага будаўніцтва.**

# Пастанова Прэзыдыуму ЦВК БССР

## аб справаздачна-праверачнай і перавыбарачнай кампаніі і новых задачах саветаў у сувязі з суцэльнай калектывізацыяй бядняцка-серадняцкіх гаспадарак БССР.

У адпаведнасьці з пастановамі Прэзыдыуму ЦВК Саюзу ССР ад 21 сьнежня 1929 г. „Аб правядзеньні справаздачна-праверачнай кампаніі гарадзкіх і сельскіх саветаў“ і ад 25 студзеня 1930 году „Аб новых задачах саветаў у сувязі з шырока разгорнутай калектывізацыяй на вёсцы“, Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР пастанаўляе паказаць усім выканаўчым камітэтам і саветам наступнае:

1. Масавая суцэльная калектывізацыя сельскай гаспадаркі, якая павінна ахапіць і перабудаваць на сацыялістычны лад усе бядняцка-серадняцкія гаспадаркі БССР і зьвязаная з гэтым рашучая палітыка ліквідацыі кулацтва як клясы, ставяць катэгарычнае пытаньне аб перабудове па новаму ўсяе працы нізавое сеткі Саветаў.

Ва ўмовах рашучага наступленьня на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі і ліквідацыі кулацтва як клясы, клясавая барацьба набывае асаблівую жорсткасьць. Гэта вымагае, каб саветы—органы пралетарскай дыктатуры—былі асабліва ўмацаваны і ўзмоцнены. Усялякія адкрытыя і замаскаваныя спробы ліквідаваць сельсаветы, паслабіць ці прынізіць іх кіруючую ролю шляхам перадачы ўсіх або часткі функцый ды правоў сельсаветаў праўленьням калгасаў зьяўляюцца па сутнасьці контррэвалюцыйнымі, адбіваюць імкненьні клясавых ворагаў, якія хочуць падарваць дыктатуру пралетарыяту і паслабіць сілу яе органаў.

Падобныя ліквідатарскія настроі павінны атрымаць самы рашучы адпор.

2. Ня гледзячы на такую рашучую зьмену абставін у вёсцы, шмат сельсаветаў да гэтага часу не змаглі перабудаваць сваёй работы ў адпаведнасьці з новымі задачамі. Таму зараз неабходна дамагчыся хуткага і караннога пералому ў працы сельсаветаў.

3. Ва ўмовах калгаснага руху значэньне саветаў павінна яшчэ больш узьняцца. Саветы, павярнуўшыся тварам да калгаснага руху і стаўшы на чале яго, забясьпечаць рашучыя пасьпехі сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі праз калгасы. Неабходна ўзмацніць кіруючую ролю саветаў у адносінах да калектываў, павялічыць адказнасьць саветаў за калгаснае будаўніцтва.

Сельсаветы, як асноўныя органы пралетарскай дзяржавы на сяле, павінны стаць на чале батрацка-бядняцкіх і серадняцкіх мас у справе ўсяго сацыялістычнага будаўніцтва на вёсцы, у справе разьвіцьця сацыялістычнай сельскай гаспадаркі, ліквідацыі кулацтва як клясы, і адказваць за гэтую справу. У сувязі з гэтым важнейшымі практычнымі задачамі сельсаветаў на даным этапе павінны быць наступныя:

а) усямернае садзейнічаньне разьвіцьцю саўгасаў, узбуйненьню іх і павялічэньню ўплыву, як найбольш пасьлядоўна сацыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі, як найбольш узорных прыкладаў арганізацыі вытворчасьці і гаспадараваньня для калгасаў;

б) прапрацоўка плянаў калектывізацыі сельскай гаспадаркі і вытворчых плянаў калгасаў на тэрыторыі саветаў і практычнае правядзеньне ў жыцьцё гэтых плянаў;

в) увядзеньне, як сыстэмы, справаздачнасьці калгасаў перад саветамі, не дапускаючы, аднак, драбязьлівай апекі і адміністрацыйнага ўмешваньня саветаў у кіраўніцтва калектывамі;

г) рашучае садзейнічаньне аграмаджаньню сродкаў вытворчасьці і арганізацыя працы ў калгасах;

д) узяцьце на вучот кулацкіх гаспадарак і іх сродкаў вытворчасьці, якія павінны быць захаваны ад злоўмыснага зьнішчэньня і перадаваны суседнім калектыўным ці савецкім гаспадаркам;

е) нагляд за тым, каб кулакі не дапушчаліся ў калгасы і каб існуючыя калгасы былі ачышчаны ад кулацкіх элемэнтаў; барацьба супроць ілжэкалгасаў;

ж) вядзеньне рашучай барацьбы супроць кулацкіх, контр-рэвалюцыйных выступленьняў, асабліва накіраваных супроць калгаснага руху;

з) нагляд за выкананьнем калгасамі ўсіх іх абавязацельстваў перад пралетарскаю дзяржаваю (хлебазагатоўкі, кантрактацыя, падаткі і г. д.);

і) загадваньне ўсімі зямельнымі фондамі, нагляданьне за іх рацыянальным выкарыстаньнем, разгляданьне хадайніцтваў калгасаў аб водпуску ім крэдытаў, зацьвярджаць гэтыя хадайніцтвы, дамагацца іх здавальненьня і кантралявацц выкарыстаньне;

к) сельсаветы, асабліва ў раёнах суцэльнай калектывізацыі, павінны мець свой бюджэт, як матар'яльную падставу свайго кіраўніцтва ва ўсіх галінах сацыялістычнага будаўніцтва ў межах савету;

л) прыстасаваньне ўсёй адміністрацыйнай, камунальнай і культурна-бытавой працы да новых умоў суцэльнай калектывізацыі і прыстасаваньне сеткі існуючых школ і іншых культурных устаноў, лячэбных устаноў, прывядзеньне ў парадак дарог, пабудова калектыўных паселішч, з пункту погляду больш поўнага і першачарговага абслугоўваньня насельніцтва калгасаў, з пункту погляду ператварэньня калгасаў у цэнтры агрыкультурных, сацыяльна-бытавых і культурных мерапрыемстваў саветаў;

м) у бягучым годзе важнейшай задачай сельсаветаў трэба таксама лічыць пасьпяховае правядзеньне пасяўной кампаніі, шляхам: засеву яравога кліну ўсіх створаных калгасаў аграмаджаным парадкам; агульнага павялічэньня пасяўной плошчы; прыняцьця мер для палепшаньня апрацоўкі глебы; стварэньня пасяўных фондаў; ачысткі насеньня і г. д.; абавязковага выкананьня лімітаў па ураджайнасьці, па травасеяньні, жывёлагадоўлі, ачыстцы насеньня і г. д.

4. З гэтымі складанымі задачамі, пастаўленымі перад сельсаветамі, сельсаветы могуць справіцца толькі пры ўмове палепшаньня масавай працы і максымальнага ўцягненьня шырокіх мас працоўных у працу саветаў: толькі пры згуртаваньні батрацка-бедняцкіх мас, толькі пры ўмове пагалоўнага ўцягненьня батракоў і беднякоў у штодзённую працу саветаў, а таксама пры ўмове значнага павялічэньня іх колькасьці ў складзе саветаў,—могуць быць з посьпехам вырашаны новыя задачы, якія стаяць перад сельсаветамі.

5. Дзеля таго, каб дамагчыся рашучага і хуткага пералому ў працы саветаў, Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР прапануе з 15-га лютага па 15 сакавіка 1930 году правесьці справаздачна-праверачную кампанію ўсіх сельскіх і местачковых саветаў. У час справаздачна-праверачнай кампаніі зрабіць перавыбары ўсіх сельсаветаў у раёнах і сельсаветах суцэльнай калектывізацыі, каб новы склад сельсаветаў адпавядаў новым умовам суцэльнай калектывізацыі, дзе вышэйвызначаныя задачы павінны ажыцьцяўляцца і рэалізавацца найбольш поўна і ў першую чаргу. Ва ўсіх іншых раёнах, тыя сельсаветы, якія не праявілі сябе ў справе арганізацыі беднаты, батрацтва і калектывізацыі, скажалі клясавую лінію, засьмечаны варожымі і чуждымі элемэнтамі, не забясьпечваюць актыўнага цьвёрдага кіраўніцтва ў справе калектывізацыі і ліквідацыі кулака як клясы, таксама падлягаюць перавыбарам па пастанове акруговых і раённых выканаўчых камітэтаў.

Адначасова, у дачыненьні да ўсіх астатніх саветаў, якія перавыбірацца ня будуць, неабходна ў працэсе справаздачна-праверачнай кампаніі дабіцца рашучага ачышчэньня іх ад усіх клясава-чуждых, разлажыўшыхся і прымазаўшыхся элемэнтаў, ад усіх тых, хто ня хоча і няздольны ажыцьцяўляць клясавую пралетарскую лінію да канца, хто ў правядзеньні гэтай лініі хістаецца і праяўляе прымірэнчыя адносіны да клясавага ворага ці яму патураючых. Для гэтага ў надыходзячую справаздачна-праверачную кампанію найшырэй павінна быць выкарыстана выбаршчыкамі права на адкліканьне з саветаў гэткіх дэпутатаў. На іх месца, як і наогул у саветы, павінны быць высунуты таварышы клясава-вытрыманыя, аўтарытэтныя з рабочых, батрацтва, беднаты і серадняцкага актыву, асабліва калгасьнікаў.

Праз перавыбары і праверку, чыстку саветаў трэба дамагацца як рашучага павароту ўвагі сельсаветаў да новых

задач, да калгаснага руху, так і зьмены сацыяльнага складу іх у бок перавагі батрацка-бядняцкіх элемэнтаў і забясьпечаньня калгаснага руху пралетарскім уплывам і кіраўніцтвам.

У працэсе справаздачна-праверачнай кампаніі і перавыбараў павінны быць мабілізаваны шырокія масы батрацтва, беднаты і серадьнякоў пад лёзунгам калектывізацыі сельскай гаспадаркі і ліквідацыі кулацтва як клясы. Пры гэтым важнейшае значэньне набывае падбор кіруючых кадраў сельсаветаў. Выканаўчыя камітэты абавязаны працу па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы нізавых савецкіх працаўнікоў паставіць у цэнтры сваёй дзейнасьці на даным этапе. Гарадзкія саветы павінны на справе дапамагаць сельсаветам пасылкаю брыгад і сяброў гарадзкіх саветаў, актывістаў-рабочых на часовую ці пастаянную працу ў сельсаветы.

6. Справаздачна-праверачная кампанія павінна даць далейшае ажыўленьне працы рэвізійных камісій, саветаў, як органаў грамадзкага кантролю, якія поўнасьцю павінны праверыць дзейнасьць саветаў і нароўні з імі адлічвацца на кожным справаздачным вучастку. Перавыбары рэвізійных камісій павінны адбывацца разам з перавыбарамі саветаў. У працэсе справаздачна-праверачнай кампаніі павінны адклікацца члены рэвізійных камісій, не адпавядаючыя свайму прызначэньню, не праводзячыя правільнай клясавай лініі, клясава-чужыя, разлажыўшыяся, дыскрэдытаваўшыя сябе і бязьдзейныя.

Апрача таго, у максымальнай меры павінны быць выкарастаны і разгорнуты ў чарговую справаздачна-перавыбарчую кампанію новыя формы масавай праверкі работы саветаў праз рабочыя брыгады, лёгкую кавалерыю, пасылку для праверкі работы сельсаветаў членаў гарадзкіх саветаў і гэтак далей.

Адначасна з справаздачамі саветаў і рэвізійных камісій практыкаваць у парадку падрыхтоўкі да справаздачна-праверачнай кампаніі саветаў пастаноўку на сходах справаздач паасобных камісій і сэкцый саветаў.

Таксама ў працягу справаздачна-перавыбарчай кампаніі ў дастаткова шырокай меры павінны быць праведзены справаздачы выканаўчых камітэтаў, ураду ў першую чаргу ў асяродках суцэльнае калектывізацыі.

7. Улічваючы, што значная частка саветаў будзе перавыбрана ці абноўлена, а таксама, што практычная частка наказаў, дадзеных у апошнюю перавыбарчую кампанію, у значнай меры ўжо выканана саветамі, і шпаркі тэмп сацыялістычнага будаўніцтва зараз высунуў шэраг новых задач, якія не маглі быць прадугледжаны ў апошнюю перавыбарчую кампанію, павінны быць дадзены новыя наказы, цалкам адбіваючыя вымаганьні сучаснага этапу сацыялістычнага будаўніцтва.

Неабходна выключную ўвагу ўдзяліць справе падрыхтоўкі наказаў, каб яны былі сапраўднымі дырэктывамі для саветаў і кожнага іх члена ў штодзённай рабоце і выхавальнікамі ўсяе масы выбаршчыкаў у справе ажыцьцяўленьня сацыялістычнай рэканструкцыі краіны і зьнішчэньня кулака як клясы.

Справаздачныя і перавыбарчыя сходы павінны адбывацца адначасова. Таму саветы ў сваіх справаздачах павінны ня толькі далажыць аб праробленай імі працы, а таксама яскрава акрэсьліць задачы, якія надалей стаяць перад саветамі з пункту погляду ажыцьцяўленьня генэральнай лініі савецкай улады і камуністычнае партыі.

Усе канкрэтныя прапановы і практычныя дадаткі да асноўнае палітычнае часткі наказаў павінны быць дасканала распрацаваны з поўным улікам рэальнасьці іх выкананьня і запатрабаваньняў выбаршчыкаў, павінны быць шырока абмеркаваны на сходах батрацтва і беднаты, камсамолу, працоўных жанчын і ўсёй мясцовай, савецкай, партыйнай і прафэсыянальнай грамадзкасьці.

8. Для забясьпечаньня пасьпяховага выкананьня задач справаздачна-праверачнай кампаніі саветаў павінна быць праведзена самая шырокая падрыхтоўчая работа сярод батрацтва, беднаты і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, асабліва калгасьнікаў, сярод працоўных жанчын, моладзі і працоўных нацыянальных меншасьцяй. Трэба правесьці нарады і канфэрэнцыі груп беднаты і батрацка-бядняцкія сходы.

Актыўнасьць працоўных жанчын, якая высока ўзьнялася ў мінулую перавыбарчую кампанію, яшчэ больш павінна быць павялічана, прычым неабходна яшчэ больш пашырыць уцягненьне працоўных жанчын у выбарчыя савецкія органы.

Неабходна дабівацца ў гэтую перавыбарчую кампанію поўнага зьнішчэньня рэшткаў адзінага нацыянальнага фронту, пад прыкрыцьцем якога варожыя сілы вядуць барацьбу супроць калектывізацыі і супроць ліквідацыі кулацтва, супрацьпаставіўшы ідэі нацыянальнага адзінства адзіны клясавы фронт працоўных усіх нацыянальнасьцяй.

У сувязі з вышэйазначаным Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР пастанаўляе:

1. Даручыць акруговым выканаўчым камітэтам не пазьней 3-х дзён распрацаваць каляндарны плян правядзеньня правыздачнай кампаніі па раёнах, вызначыўшы тыя раёны і сельсаветы, дзе павінны быць зроблены перавыбары сельскіх саветаў.

2. Пры правядзеньні перавыбарчай кампаніі строга кіравацца выданымі раней інструкцыямі аб вызначэньні выбарчых вучасткаў, позвах, пазбаўленьні выбарчых правоў, парадку правядзеньня выбарчых сходаў і г. д.

3. Даручыць Цэнтральнай Выбарчай Камісіі даць канкрэтныя паказаньні мясцовым выбарчым камісіям аб правядзеньні справаздачна-перавыбарчай кампаніі.

Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту выказвае цьвёрдую надзею на тое, што ўсе грамадзкія арганізацыі, як прафэсыянальныя саюзы, камітэты сялянскай узаемадапамогі, каапэрацыя і іншыя, а таксама і ўвесь партыйна-савецкі друк прымуць шырачайшы ўдзел у правядзеньні справаздачна-праверачнай кампаніі саветаў, мабілізуючы пільнасьць рабочых і бядняцка-серадняцкіх мас на рашучую барацьбу супроць капіталістычных элемэнтаў гораду і вёскі, за канчатковае зьнішчэньне кулацтва, як клясы, за ўзмацненьне тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва ва ўсіх галінах народнае гаспадаркі, культуры і быту, за далейшае павялічэньне колькасных і якасных паказчыкаў гэтага будаўніцтва, праз яшчэ большы ўздым творчай ініцыятывы і ўдзелу ўсіх працоўных мас у сацыялістычным будаўніцтве.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР **А. Чарвякоў.**

Сакратар Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР **А. Хацкевіч.**

6 лютага 1930 г., г. Менск.

---

# Абежнік Цэнтральнай выбарчай камісіі.

## Усім выбарчым камісіям акруговых і раённых выканаўчых камітэтаў гарадзкіх, сельскіх і местачковых саветаў.

На падставе пастановы Прэзыдыуму ЦВК БССР ад 6 лютага 1930 году «Аб справаздачна-праверачнай і перавыбарчай кампаніі і новых задачах саветаў, у зьвязку з шырока разгорнутай калектывізацыяй бядняцка-серадняцкіх гаспадарак БССР», апублікаванай у газэце «Савецкая Беларусь» 7-га лютага 1930 году. Цэнтральная Выбарчая Камісія, у выкананьне і разьвіцьцё гэтай пастановы, паказвае ўсім выбарчым камісіям пры выканаўчых камітэтах і саветах БССР наступнае:

1. а) Падрыхтаваць і правесьці ва ўсіх без выключэньня саветах БССР справаздачна-праверачную кампанію;

б) Падрыхтаваць і правесьці перавыбары саветаў ва ўсіх раёнах і саветах суцэльнай калектывізацыі;

в) Перавыбары ўсіх тых саветаў, якія ня здолелі стаць на чале калгаснага руху бядняцка-серадняцкіх мас, тармазяць яго разгортваньне, нерашуча праводзяць ліквідацыю кулацтва як клясы, ігнаруюць інтарэсы батрацтва і беднаты, скрыўляючы клясавую лінію ў штодзённай сваёй рабоце;

г) Саветы, што значна засьмечаны кулакамі, заможнікамі і іншымі клясава ды ідэалёгічна чужымі, злачыннымі і разлажыўшыміся элемэнтамі, склад якіх не забясьпечвае ўплыву батрацка-бядняцкіх мас;

д) Саветаў, якія ня зьвязаны з выбаршчыкамі, ня выконваюць іх наказу і праца якіх у час справаздач будзе прызнана выбаршчыкамі нездавальняючай.

Ва ўсіх тых саветах, што будуць перавыбірацца, разам з імі неабходна таксама перавыбраць і рэвізійныя камісіі.

Разам з гэтым, шырока разгортваючы крытыку і самакрытыку, у час справаздачна-пра-

верачнай кампаніі неабходна выявіць усіх тых членаў саветаў і рэвізійных камісій, якія скажалі клясавую лінію, перашкаджаюць перабудове работы саветаў па новаму і ня здольны гэтую перабудову зьдзяйсьняць, адклікаючы іх з саветаў і замяняючы лепшымі прадстаўнікамі рабочага і батрацка-бядняцкага асяродку, шырока скарыстоўваючы ў гэтым правы самых выбаршчыкаў.

2. Забясьпечыць працаздольны, пераважна рабочы і батрацка-бядняцкі склад выбарчых камісій з дастатковым прыцягненьнем рабочых саўгасаў і прысланых для працы на вёску пролетараў гораду. Пашырыць уцягненьне ў склад выбарчых камісій жанчын—работніц, батрачак, бяднячак і сераднячак—актывістак. Прасачыць за поўным ажыцьцяўленьнем прадстаўніцтва ўсіх арганізацый, нацменшасьцяй, Чырвонай арміі і іншых, вызначаных інструкцыяй аб выбарах у саветы, не дапускаючы ніякіх ад яе адступленьняў.

Устанавіць сталае кіраўніцтва нізавымі выбарчымі камісіямі праз сваячасовую рассылку ўсіх дырэктыў, матар'ялаў, форм справаздачнасьці і вучоту, праз заслухоўваньне іх справаздач, інструктаваньне.

Безадкладна прымацаваць упаўнаважаных вышэйстаячых выбарчых камісій і арганізаваць пасылку ў дапамогу нізавым выбарчым камісіям дастатковай колькасьці працаўнікоў на час непасрэднага праходжаньня кампаніі і правядзеньня важнейшых, з ёю зьвязаных, мерапрыемстваў; таксама забясьпечыць выбарчыя камісіі на час кампаніі неабходным і адпавядаючым тэхнічным апаратам.

Прапрацаваць дасканала, пад кіраўніцтвам добрасьвядомых таварышоў, з усімі членамі выбарчых камісій інструкцыю аб выбарах у саветы.

3. Праверыць ва ўсіх бяз выключэньня саветах, незалежна ад таго, ці будуць там адбывацца перавыбары, ці не, сьпісы выбаршчыкаў і асоб, пазбаўленых выбарчага права. Максымальна поўна выявіць усіх асоб, што падлягаюць пазбаўленьню выбарчых правоў і гэтакіх яшчэ не пазбаўлены.

Для гэтай работы шырока мабілізаваць мясцовую грамадзкасьць, сходы батрацтва, беднаты і г. д., у прыватнасьці прыцягнуць рабочыя брыгады і атрады лёгкай кавалерыі.

Разам з гэтым не дапушчаць ніякіх перагібаў у бок пазбаўленьня выбарчых правоў серадаякоў, і іншых працоўных, строга кіруючыся інструкцыяй аб выбарах у саветы.

Забясьпечыць сваячасовы, у прадугледжаныя інструкцыяй аб выбарах у саветы тэрміны, разгляд скарг на няправільнае пазбаўленьне выбарчых правоў.

4. Безадкладна прыступіць да арганізацыі сеткі справаздачна-перавыбарчых вучасткаў, маючы на ўвазе далейшае іх разбуйненьне, даўшы ў сярэднім лік жыхароў на вучастак да 200—250 чалавек, загадзя падшукаўшы і вызначыўшы адпаведныя памяшканьні для сходаў. Па магчымасьці прыстасоўваць цэнтры справаздачна-перавыбарчых сходаў да прадпрыемстваў, саўгасаў і калгасаў, улічваючы таксама неабходнасьць арганізацыі спэцыяльных выбарчых вучасткаў там, дзе пераважную большасьць складае насельніцтва нацменшасьцяй.

Выбарчым камісіям безадкладна скласьці каляндарныя пляны кампаніі і ўсяе зьвязанае з яе правядзеньнем працы па абслугоўваемай імі тэрыторыі, узгадніўшых іх з працай мясцовых прафэсыянальных і грамадзкіх арганізацый.

5. Пры правядзеньні ўсіх зьвязаных з кампаніяй мерапрыемстваў клясававарожыя элемэнты—кулакі, нэпманы, духавенства, сэктанты і г. д., у зьвязку з правядзеньнем рашучага наступу на капіталістычныя элемэнты і ліквідацыі кулацтва як клясы, яшчэ больш чым у мінулыя справаздачна-перавыбарчыя кампаніі, паспрабуюць арганізаваць супраціўленьне, дыскрэдытаваць генэральную лінію партыі і Савецкае ўлады, перацягнуць на свой бок хісткія элемэнты серадняцтва і несьвядомых беднякоў, каб, калі не самім пралезьці, то прынамсі, працягнуць у саветы асоб, што спачувальна або прымірэнча да іх адносяцца.

Усе гэтыя спробы павінны быць зьнішчаны ў карані, перш за ўсё шырока разгорнутай сыстэмай мерапрыемстваў па арганізацыі ды згуртаваньні батрацка-бядняцкіх мас на пляцформе генэральнай лініі партыі і савецкай улады і ў яе абарону, а таксама рашучымі мерамі ўзьдзейнічаньня ў адміністрацыйным і судовым парадку.

6. Да актыўнага ўдзелу ў кампаніі павінны быць пагалоўна прыцягнуты ўсе рабочыя і батрацка-бядняцкія масы выбаршчыкаў, для чаго, у мэтах іх актывізацыі, прапрацаваць задачы кампаніі, а таксама такія важнейшыя пытаньні, як абгаварэньне працы саветаў і іх новых задач, кандыдатур у склад саветаў, наказаў, на нарадах, канфэрэнцыях і сходах прафактыву, на рабочых сходах, на сходах і канфэрэнцыях батрацтва, груп беднаты і батрацка-бядняцкіх сходах, якія павінны быць папярэдня праведзены, у зьвязку з кампаніяй, на кожным вучастку, прыцягнуўшы ў дапамогу іх правядзеньню пад кіраўніцтвам партыі, камсамол, батрацка-бядняцкі актыў і савецкі актыў вясковай інтэлігэнцыі.

7. Шырокую працу неабходна разгарнуць, у зьвязку з справаздачна-праверачнай і перавыбарчай кампаніяй, сярод жанчын—работніц, батрачак, бяднячак і актывістак-серадаячак, а таксама сярод жонак рабочых і служачых.

Трэба правесьці перад справаздачнымі і справаздачна-перавыбарчымі сходамі на ўсіх вучастках сходы жанчын, нарады актывістак, агульныя і па асобных галінах. Неабходна правесьці, з дапамогай піанэраў, камсамольцаў, дэлегацкага інстытуту, каапэрацыі і інш. арганізацый, шэраг практычных мерапрыемстваў, забясьпечваючых найбольш поўны ўдзел жанчын у справаздачна-перавыбарчых сходах, як арганізацыя брыгад—нянек, часовых ясьляў, запрашэньне кожнае сям'і на сходы па магчымасьці ў два розныя тэрміны і г. д.

У першую чаргу гэтай справе павінны дапамагчы і арганізаваць яе камісіі саветаў па палепшаньні быту і працы працоўных жанчын.

8. Сярод працоўных нацыянальных меншасьцяй, побач з агульнай работай, якая будзе праводзіцца ў зьвязку з справаздачна-пра-

верачнай і перавыбарчай кампаніяй неабходна правесьці яшчэ шэраг асобных мерапрыемстваў, маючы на ўвазе, што сярод нацменшасьцяй клясава-варожыя элемэнты карыстаюцца зброяй барацьбы супроць калектывізацыі і ліквідацыі кулацтва як клясы,—прапагандаю адзінага нацыянальнага фронту, імкнучыся замазаць клясавыя супярэчнасьці і барацьбу. Гэтаму трэба супроцьпаставіць дасканалую арганізацыю адзінага фронту рабочых, батрацкіх і бядняцка-серадняцкіх мас усіх нацыянальнасьцяй супроць кулацтва, для зьнішчэньня яго як клясы.

У пунктах з кампактнымі масамі нацменшасьцяй трэба вылучыць нацвучасткі з абслугоўваньнем іх дакладчыкамі на роднай мове.

9. Каб кампанія сапраўды мабілізавала ўсе працоўныя масы пад лёзунгамі сацыялістычнай рэканструкцыі краіны, суцэльнай калектывізацыі сельскай гаспадаркі і зьвязанай з ёй ліквідацыі кулацтва як клясы, неабходна правесьці самую шырокую і ўсебаковую агітацыйна-прапагандысцкую работу, праз культурнаасьветныя ўстановы (тэатры, кіно, нардамы, клюбы, хаты-чытальні, чырвоныя куткі і г. д.), радыё, выпуск лёзунгаў, плякатаў і інш. Цэнтральны і мясцовы друк павінны ўдзяляць правядзеньню кампаніі, высьвятленьню яе задач і вынікаў, максымальную ўвагу. Таксама насьценныя газэты павінны быць поўнасьцю мабілізаваны ў справаздачна-праверачную і перавыбарчую кампанію саветаў.

10. Для ўдзелу ў кампаніі і дапамогі яе правядзеньню найшырэй павінны быць мабілізаваны ўсе грамадзкія арганізацыі і ведамсьцьвенныя ўстановы (прафсаюзы, комсамол, усе віды каапэрацыі, КСУ, навучальныя, культасьветныя і іншыя цэнтральныя ўстановы, кіно, радыё, працоўная вясковая інтэлігэнцыя, дэмабілізаваныя чырвонаармейцы і г. д.), выконваючы пэўную, канкрэтную частку работы, што датычыць кампаніі, і ў першую чаргу работу па актывізацыі ўсяе масы выбаршчыкаў, што ўваходзяць у склад данай арганізацыі ці абслугоўваюцца данай установай або ведамствам.

11. Чырвоная армія павінна ў першую чаргу глыбока і ўсебакова прапрацаваць з усёй масай кадравых чырвонаармейцаў, пераменьнікаў і дапрызыўнікаў, значэньне і задачы кампаніі. Далей, у максымальнай меры дапамагчы ў правядзеньні кампаніі сярод грамадзянскага насельніцтва, як вялікая культурна-палітычная сіла; паставіць і высьвятліць перад выбаршчыкамі ва ўсю шырыню задачы ўмацаваньня абароназдольнасьці краіны, пазнаёміць працоўных з жыцьцём і бытам чырвонаармецаў.

Трэба разгарнуць, як і ў мінулую перавыбарчую кампанію, практыку дапамогі Чырвонай арміі ў правядзеньні справаздачна-праверачнай і перавыбарчай кампаніі саветаў, шляхам удзелу ў мітынгах-пераклічках, пасылкі чырвонаармейскіх брыгад для ўдзелу і дапамогі правядзеньню зьвязаных з кампаніяй мерапрыемстваў і г. д.

12. На складаньне справаздач саветаў і іх дэпутатаў трэба зьвярнуць асабівую ўвагу.

Справаздачы павінны ахопліваць пытаньні ўдзелу саветаў у ажыцьцяўленьні пяцігодкі, калектывізацыі, абслугоўваньня рабочых, батрацтва і беднаты, сувязі саветаў з выбаршчыкамі і выкананьня іх наказаў. У справаздачах канкрэтна павінны быць вызначаны далейшыя практычныя мерапрыемствы, якія неабходна ажыцьцявіць савету з пункту погляду тых новых задач, што стаяць зараз перад саветамі.

Справаздачы павінны быць загадзя падрыхтаваны, прапрацованы і зацьверджаны пленумамі саветаў.

Да справаздачнасьці перад выбаршчыкамі павінны быць прыцягнуты, апрача прэзыдыумаў саветаў і іх рэвізійных камісій, таксама ўсе радавыя дэпутаты, сэкцыі і камісіі.

Неабходна загадзя вызначыць рабочыя цэнтры і цэнтры буйных калгасных аб'яднаньняў, на якіх паставіць справаздачы раённых і акруговых выканаўчых камітэтаў, а таксама і ўраду.

13. Рэвізійныя камісіі павінны ўсюды дасканала прарэвізаваць усю работу саветаў і іх камісій, удзел іх і кіраўніцтва ў справе калектывізацыі, выкананьне наказаў выбаршчыкаў, скарыстаньне і рэалізацыю сродкаў самаабкладаньня, выкананьне каштарысу і бюджэтаў, і далажыць падрабязгова на кожным вучастку, як пра вынікі гэтых рэвізій, так і пра тое, наколькі сыстэматычна сачыла рэвкамісія ўвесь час за працай савету і які ў ёй прымала ўдзел.

Праверку работы саветаў і іх камісій трэба правесьці шырока масавым парадкам з дапамогай рабочых брыгад, лёгкай кавалерыі і прадстаўнікоў савецкай грамадзкасьці на вёсцы.

Побач з гэтым, і выканкомы павінны, ў зьвязку з кампаніяй, разгарнуць шырокую абсьледчую працу па вывучэньні дзейнасьці саветаў наогул, ходу і правядзеньня ў іх справаздачна-праверачна-перавыбарчай кампаніі.

14. Надзвычайна адказнай і важнай справай зьяўляецца распрацоўка новых наказаў саветам. Неабходна дасканала распрацаваць агульна-палітычную частку гэтых наказаў такім чынам, каб яны яскрава, сьцісла і, разам з гэтым, вычэрпваючa поўна вызначалі тыя новыя задачы, што стаяць перад саветамі ў даны новы пэрыяд сацыялістычнага будаўніцтва, характарнейшымі рысамі якога зьяўляюцца бурныя тэмпы разьвіцьця сацыялістычнай індустрыі, сацыялістычная рэканструкцая с.-г. і канкрэтнае ажыцьцяўленьне мерапрыемстваў па ліквідацыі кулацтва як клясы.

Адначасова кожная акруга і раён павінны адбіць у наказе і падкрэсьліць тыя пытаньні і задачы, якія маюць найбольшае значэньне ў даных мясцовых умовах.

Канкрэтная частка наказаў у саветах павінна складацца з поўным улікам запатрабаваньняў выбаршчыкаў і рэальнасьці іх выкананьня, у поўнай суадпаведнасьці з агульна-палітычнымі задачамі, якія стаяць зараз перад саветамі. Наказы трэба прапрацаваць на сходах. прафактыву, батрацтва, беднаты, дэлегацкіх сходах жанчын. У канкрэтнай частцы наказаў павінны быць поўна вызначаны мерапрыемствы саветаў па калектывізацыі, раскулачваньні, выцісканьні нэпмана, рацыяналізацыі вытворчасьці, сацыялістычнай арганізацыі

быту, абслугоўваньні рабочых і калгасьнікаў, палепшаньні масавай работы і сувязі саветаў з выбаршчыкамі, па гаспадарчым, камунальным і культурна-сацыялістычным будаўніцтве.

15. Таксама, надзвычайна важнай справай у бягучую справаздачна-праверачную і перавыбарчую кампанію зьяўляецца падбор кандыдатур у перавыбіраемыя саветы і замест адклікаемых.

Перш за ўсё, падбор, павінен быць строга клясавым, з ліку рабочых, батракоў, беднякоў і лепшых, найбольш актыўных удзельнікаў калгаснага будаўніцтва і барацьбы з кулаком,—серадпякоў, шырока ўцягваючы ў саветы і іх кіруючыя органы, прыбыўшых для сталай працы на вёску, гарадзкіх рабочых.

Самы працэс падрыхтоўкі кандыдатур павінен праводзіцца ў шырока-масавым парадку праз сходы батрацтва і беднаты, рабочыя брыгады, дэлегацкія і агульныя сходы жанчын-батрачак і бядпячак, сходы і нарады актыву, камсамолу, прафэсыянальных і грамадзкіх арганізацый.

Неабходна максымальна згуртаваць усю батрацка-бядняцкую масу выбаршчыкаў і выбаршчыц для рашучага адстайваньня высоўваемых імі арганізаваным парадкам кандыдатур.

У складзе рэкамэндуемых неабходна забясьпечыць значнае павялічэньне ў саветах колькасьці работніц, батрачак, бяднячак і актывістак-сераднячак у параўнаньні з мінулай перавыбарчай кампаніяй, а таксама рашуча павялічыць колькасьць высоўваемых у склад саветаў і іх кіруючых органаў рабочых і батракоў.

Адначасова справаздачна-праверачная кампанія павінна быць максымальна выкарыстана для выяўленьня найлепшых кадраў рабочага і батрацка-бядняцкага нізавога актыву ўсіх нацыянальнасьцяй і вылучэньня іх у вышэйшыя органы ўлады замест вычышчаных бюракратычных, клясава-варожых і сацыяльна-чужых элемэнтаў.

16. Як правіла, запрашаць усіх выбаршчыкаў на справаздачна-праверачныя і перавыбарныя сходы спэцыяльнымі позвамі, загатаваўшы іх своечасова ў дастатковай колькасьці, забясьпечыўшы імі ўсе саветы і пэрсанальнае ўручэньне гэтых позваў, не пазьней як за 2-3 дні да сходаў кожнаму выбаршчыку.

17. Сацыялістычнае спаборніцтва, што зрабілася зараз магутным рухачом ва ўсіх галінах сацыялістычнага будаўніцтва, павінна быць шырока разгорнута і па пытаньнях лепшага правядзеньня справаздачна-праверачнай і перавыбарчай кампаніі паміж саветамі, раёнамі і акругамі, паміж асобнымі арганізацыямі, прадпрыемствамі ды ўстановамі.

18. Адно з цэнтральных месц пры правядзеньні справаздачна-праверачнай кампаніі і перавыбараў саветаў на вёсцы павінна заняць веснавая сельска-гаспадарчая кампанія. Увага саветаў і выбаршчыкаў павінна быць максымальна завострана на стварэньні насенных фонадў, забясьпечваючых пасеўную кампанію, ачысткі насеньня, павялічэньні пасяўной плошчы, мерах па палепшаньні апрацоўкі глебы і засеву ўсяго яравога кліну ўсімі існуючымі і ствараемымі калгасамі аграмаджаным парадкам, а таксама зьвярнуць увагу на неабходнасьць поўнага аграмаджаньня сродкаў вытворчасьці ва ўсіх існуючых і ствараемых калгасах, палепшаньня жывёлагадоўлі, выкананьня наогул агра і зоо мінімумаў.

19. Даручыць выбарчым камісіям у час справаздачна-праверачнай і перавыбарчай кампаніі саветаў правесьці перавыбары і выбары сельскіх судоў пры сельсаветах на падставе існуючага аб іх Палажэньня.

Неабходна з боку НКЮ і яго органаў на мясцох прыняць актыўнага ўдзелу ў перавыбарах сельскіх судоў.

20. Надзвычайна вялікую ролю адыгрывае наладжанасьць і бесьперабойнасьць вучоту і справаздачнасьці саветаў і выканкомаў перад вышэйшымі органамі ўлады аб праходжаньні і выніках кампаніі.

Пакідаючы ў асноўным існуючыя формы вучоту і справаздачнасьці, у гэтую праверачна-справаздачную і перавыбарчую кампанію неабходна ўнесьці наступныя зьмены:

а) у вестках, што даюцца аб выбаршчыках і выбраных, ва ўсіх графах існуючых форм, пакінуўшы лічнікам агульным, сацыяльна-маёмасны ці падатковы прызнак, азначаць у назоўніку колькасьць калгасьнікаў (напрыклад, сялян, плацячых падатку на душу ад 2 да 5 рублёў—25, з іх калгасьнікаў—18, адзначаецца ў адпаведнай форме, пад графой «плацячы ад 2 да 5 рублёў на едака» такім чынам: 25/18);

б) у вестках аб складзе выбарчых камісій увесьці наступны падзел сялян ў лічніку: 1) аслабанёныя ад с.-г. падатку, 2) плацячы с.-г. падатак бяз процантнай надбаўкі і 3) плацячы с.-г. падатак з процантнай надбаўкай.

Апрача таго, паасобна паказаць: 1) рабочы, 2) сельска-гаспадарчых рабочых і 3) батракоў. Ва ўсіх графах справаздачнасьці аб складзе выбарчых камісій таксама назоўнікам паказаць лік калгасьнікаў.

Пасьля канчатковага ўкамплектаваньня нізавых выбарчых камісій, вышэйстаячым выбарчым камісіям зрабіць дасканалую праверку складу нізавых выбіркомаў, выявіць ўсіх неадпавядаючых як па працаздольнасьці, так і з сацыяльнага боку членаў апошніх, замяніць іх і даць вестку ў Цэнтральную Выбарчую Камісію аб усіх адбыўшыхся зьменах, як лічбовымі данымі, так і кароткімі апісальнымі характарыстыкамі повадаў і прычын гэтых зьмен;

в) у тэлеграфных папярэдніх статыстычных зьвестках аб першвыбраных саветах, не пасылаючы вестак аб нацыянальным складзе, абавязкова даваць зьвесткі аб сацыяльным складзе выбраных органаў улады ў наступным разрэзе: 1) рабочыя, с.-г. рабочыя і батракі (разам); 2) сяляне, аслабанёныя ад с.-г. падатку; 3) сяляне, плацячыя с.-г. падатак бяз процантнае надбаўкі; 4) сяляне, плацячыя с.-г. падатак з процантнай надбаўкай; 5) іншыя (служачыя, саматужнікі і г. д.); 6) з усяго ліку выбраных зьяўляюцца членамі калгасаў. Астатнія даныя тэлеграфнай справаздачнасьці даваць, як і ў мінулым годзе;

г) у агульнай інфармацыйнай справаздачнасьці аб праходжаньні кампаніі, неабходна

даць, як лічбовую, так і апісальную характарыстыку саветаў, работа якіх прызнана нездавальняючай і прычын гэткай ацэнкі работы саветаў.

21. Усе інфармацыйныя і статыстычныя весткі і матар'ялы аб правядзеньні кампаніі ў Цэнтральную Выбарчую Камісію абавязкова прадстаўляюцца толькі акруговымі выбарчымі камісіямі ў наступныя тэрміны; а) аб складзе ўсіх выбарчых камісій—да 20 лютага 1930 г.; б) аб раёнах і саветах, у якіх прызначаны перавыбары—таксама да 20-га лютага 1930 году; в) аб падрыхтоўчай рабоце да кампаніі—таксама да 20-га лютага 1930 г.; г) весткі аб ходзі кампаніі, пачынаючы з лютага да 20 сакавіка ўключна пасылаць праз кожныя 5 дзён у выглядзе апісальна-інфармацыйных і статыстычных сводак, прычым даныя кожнай наступнай пяціднёўкі павінны складацца з данымі папярэдніх пяціднёвак, так што лічбы статыстычных пяціднёвак павінны паступова ўзрастаць.

Весткі аб удзеле ў выбарах і складзе саветаў, дзе гэткія будуць перавыбраны, пасылаць па тэлеграфу, астатнія весткі—поштай; д) акруговыя выбарчыя камісіі абавязаны да 1-га красавіка 1930 году прадставіць Цэнтральнай Выбарчай Камісіі БССР канчатковыя і поўныя апісальныя і статыстычныя вынікі праверачна-справаздачнай і перавыбарчай кампаніі па формах існуючай справаздачнасьці з адзначанымі вышэй зьменамі і дадаткамі.

Усе формы справаздачнасьці і позвы патрэбна зарыхтаваць на мясцох акруговым выбарчым камісіям і забясьпечыць імі сваячасова раённыя выканаўчыя камітэты, сельскія і мястэчковыя саветы.

Старшыня Цэнтральнай Выбарчай Камісіі ЦВК БССР **А. Хацкевіч.**

8 лютага 1930 г.
Менск.

---

# Абежнік Прэзыдыуму ЦВК БССР

*Усім выканаўчым камітэтам і гарадзкім саветам БССР*

**Аб пасылцы рабочага актыву са складу гарадзкіх саветаў у вёску для ўзмацненьня сельскіх саветаў.**

У мэтах узмацненьня сельскіх саветаў, якія павінны ажыцьцявіць задачы правядзеньня суцэльнай калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і ліквідацыі кулацтва як клясы, гарадзкія саветы павінны неадкладна разгарнуць масавую работу па пытаньні пасылкі ў вёску на кіруючую работу рабочых—членаў гарадзкіх саветаў, актывістых, працуючых у сэкцыях.

Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР *прапануе* гарадзкім саветам вылучыць у працягу лютага ня менш наступнага ліку таварышоў для пасылкі іх на вёску: Менскі гарадзкі савет—40 чал., Барысаўскі—15 чал., Гомельскі—35 чал., Рэчыцкі—10, Віцебскі—35, Бабруйскі—20, Магілеўскі—20, Аршанскі—15, Полацкі—5 і Мазырскі—5, прычым з гэтага ліку Менскі гарсавет павінен даць 10 рабочых Магілеўскай акрузе, 5—Аршанскай і 5—Бабруйскай. Віцебскі гарсавет—15 рабочых Полацкай акрузе і Гомельскі—15 рабочых Мазырскай акрузе. Колькасьць рабочых ад астатніх гарадзкіх саветаў вызначаецца апошнімі.

Гарадзкія саветы павінны ўжыць усе захады да таго, каб забясьпечыць пасьпяховасьць пасылкі рабочых з савецкага актыву—членаў гарадзкіх саветаў, сэкцый і г. д. у вёску, дабіваючыся пры гэтым шырокага разьвіцьця добраахвотнасьці. Намечаныя кандыдатуры пасылаемых трэба паставіць на шырокае абгаварэньне агульных сходаў рабочых, на якіх трэба растлумачыць рабочым усю важнасьць гэтага мерапрыемства з пункту погляду неабходнасьці ўзмацніць сельскія саветы лепшымі пралетарыямі гораду.

Неабходна ўтварыць грамадзкую думку вакол гэтага важнейшага палітычнага мерапрыемства—сувязі гораду з вёскай, садзейнічаньня і кіраўніцтва з боку гарадзкога пралетарыяту ў правядзеньні суцэльнай калектывізацыі і ліквідацыі кулацтва як клясы.

Пасылка рабочых-актывістых у вёску павінна разглядацца як пачэсная і адказьнейшая работа, на якую могуць быць пасланы толькі лепшыя загартаваныя рабочыя, палітычна падрыхтаваныя, добра разумеючыя сучасныя задачы партыі і савецкае ўлады ў вёсцы і ў той час добра знаёмыя з жыцьцём вёскі.

Адначасова з гэтым гарадзкія саветы павінны разгарнуць шырокую работу ў галіне пасылкі рабочых брыгад у вёску для ўдзелу ў правядзеньні справаздачна-праверачнай і перавыбарчай кампаніі, арганізуючы ў гэтай справе соцыялістычнае спаборніцтва паміж паасобнымі гарадзкімі саветамі, а таксама і іх сэкцыямі.

Як пасылка на сталую работу ў сельскія саветы, гэтак і пасылка рабочых брыгад у вёску для правядзеньня справаздачна-праверачнай і перавыбарчай кампаніі павінны быць праведзены зараз-жа з дастатковай прапрацоўкай і абгаварэньнем гэтага пытаньня на агульных сходах рабочых і пленумах гарадзкіх саветаў.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР **А. Чарвякоў.**

Сакратар Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР **А. Хацкевіч.**

17 лютага 1930 г.
гор. Менск.

---

**Сцэмантуем сельсаветы пралетарскімі кадрамі індустрыяльных рабочых.**

---

**Забясьпечым посьпехі справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў і пагалоўны ў ёй удзел працоўных праз сацыялістычнае спаборніцтва.**

---

**Узмоцнім сувязь гораду з вёскай пасылкай рабочых брыгад. Накіруем лепшых гарадзкіх пралетараў на сталую працу ў сельсаветы.**

---

**Павялічым кіруючую ролю батрацка-бядняцкіх груп у працы сельсаветаў. Выбярэм больш рабочых, батракоў і беднякоў у кіраўнічыя органы саветаў.**

# Аб рэарганізацыі дадатку да газэты „Савецкая Беларусь“—„Саветы Беларусі“.

17 лютага 1930 году Презыдыум ЦВК БССР па пытаньні аб нашым часопісу прыняў пастанову наступнага зьместу:

Разгортваючаяся вялізарнымі тэмпамі сацыялістычная індустрыялізацыя краіны, масавая калектывізацыя бядняцка-серадняцкіх гаспадарак вёскі і ў сувязі з гэтым ліквідацыя кулацтва як клясы, выклікаюць неабходнасьць карэннае перабудовы ўсяе работы саветаў у напрамку, адпавядаючым найбольш пасьпяховаму вырашэньню гэтых задач, што надае выключнае значэньне ўзмацненьню і палепшаньню справы кіраўніцтва саветамі і нізавым савецкім актывам, справы арганізацыі абмену вопытам працы на мясцох, яго абагуленьня і скарыстаньня ва ўсёй сыстэме нізавых саветаў і выканкомаў праз спэцыяльна прыстасаваны да гэтае мэты друкаваны орган.

Выданьне дадатку „Саветы Беларусі“, які існуе з верасьня 1928 г. пры газэце „Савецкая Беларусь“, ня гледзячы на ўсё станоўчае значэньне, якое ён адыграў у гэтай справе, зараз, ва ўмовах усё ўзрастаючых запатрабаваньняў і дзякуючы адсутнасьці самастойнасьці ў выданьні, не дае належнага вырашэньня гэтага пытаньня.

Выходзячы з адзначанага, Прэзыдыум ЦВК БССР пастанаўляе:

1. Рэарганізаваць дадатак „Саветы Беларусі“ ў асобны штомесячны часопіс „Саветы Беларусі“, які выдаваць, як орган Прэзыдыуму ЦВК БССР.

2. Часопіс павінен зьявіцца надзвычайна важнай прыладай у ажыцьцяўленьні таго каранного павароту, што патрабуецца сучасным этапам соцыялістычнага будаўніцтва ў рабоце саветаў і мабілізаваць увагу саветаў вакол задач:

а) узмацненьня арганізацыі саветамі батрацка-бядняцкіх мас і іх саюзу з серадняком, актыўнага ўдзелу іх у сацыялістычнай рэконструкцыі краіны, кіраўніцтва саветаў у справе суцэльнай калектывізацыі бядняцка-серадняцкай сельскай гаспадаркі і ліквідацыі кулацтва як клясы;

б) кіраўніцтва саветаў калгаснымі аб‘яднаньнямі, арганізацыяй працы іх пад кутом погляду паглыбленьня працэсаў аграмаджаньня і ўзьняцьця вытворчых паказчыкаў, змагаючыся з кулацкім уплывам на калгасьнікаў, ачышчаючы рашуча калгасы ад пралезшых кулацкіх элемэнтаў, перамагаючы дробна-ўласьніцкую псыхалёгію ўнутры калгасаў і забясьпечваючы выкананьне калгасамі сваіх абавязкаў у дачыненьні дзяржавы;

в) рашучага ажыцьцяўленьня практычных мерапрыемстваў, вынікаючых з палітыкі ліквідацыі кулацтва як клясы (высяленьне, пазбаўленьне сродкаў вытворчасьці і г. д.) у раёнах суцэльнай калектывізацыі;

г) узмацненьня сувязі і кіраўніцтва саветаў батрацтвам і беднатой, усямерна абараняючы іх інтарэсы;

д) уцягненьня ў дзяржаўны апарат і выбарныя савецкія органы жанчынработніц, батрачак, бяднячак і серадняччак—калгасьніц, згуртаваньне шырокага жанактыву вакол мерапрыемстваў па бытавым разьняволеньні жанчын;

е) нацыянальнага будаўніцтва—узмацненьня працы нацсаветаў і абслугоўваньня нацменшасьцяй;

ж) сапраўднага кіраўніцтва ўсімі прадпрыемствамі і ўстановамі, якія знаходзяцца на тэрыторыі савету;

з) палепшаньня культурна-сацыяльнага абслугоўваньня працоўных, у першую чаргу рабочых і калгасьнікаў, мерапрыемстваў па сацыялістычнай арганізацыі быту;

і) ажыўленьня і прыстасаваньня да гэтых задач усяе арганізацыйна-масавае працы саветаў, у прыватнасьці выкарыстаньне вопыту сувязі з шырокімі масамі працоўных праз брыгады;

к) падрыхтоўкі кадраў для вылучэньня ў дзяржаўны апарат; падрыхтоўкі і пера[...] падрыхтоўкі работнікаў саветаў і выкан[...] комаў;

л) пашырэньня правоў і матар'яльнай базы нізавых савецкіх органаў і сапраўднага выкарыстаньня апошнімі гэтых правоў;

м) пытаньняў інструктаваньня і кіраўніцтва нізавымі саветамі і выканкомамі з боку вышэйстаячых выканаўчых камітэтаў.

3. У адпаведнасьці з адзначанымі задачамі, часопіс павінен даваць як неабходны кіраўнічы матар'ял, гэтак і асабліва высьвятляць становішча працы на мясцох і падзяляцца на наступныя разьдзелы:

а) *дырэктыўны* — кіруючыя артыкулы па важнейшых чарговых палітычна-гаспадарчых пытаньнях, пытаньнях арганізацыі батрацка-бядняцкіх мас, калектывізацыі сельскай гаспадаркі, ліквідацыі кулацтва і ролі ў гэтым сельсаветаў, гаспадарчай, сацыяльна-культурнай і масавай работы саветаў і г. д.;

б) *на мясцох*—артыкулы аб працы паасобных саветаў і выканкомаў наогул ці ў пэўнай галіне;

в) *дыскусыйны*—абгаварэньне праэктаў мерапрыемстваў, маючых прынцыповае і масавае значэньне і прапаноў па пытаньнях работы саветаў;

г) *савецкае будаўніцтва па Саюзе ССР;*

д) *папулярызацыйны*—артыкулы, якія папулярызуюць асобныя пастановы, дырэктывы і мерапрыемствы ў галіне савецкага будаўніцтва;

е) *дзейнасьць Прэзыдыуму ЦВК і СНК* (сыстэматычная інфармацыя аб пасяджэньнях і агляд пастаноў);

ж) *кансультацыйна - карэспандэнцкі*—запытаньні і адказы па пытаньнях савецкага будаўніцтва.

4. Часопіс павінен быць разьлічаны, галоўным чынам, на абслугоўваньне шырокага нізавога савецкага актыву і працаўнікоў нізавых саветаў і выканкомаў (раённых) і распаўсюджвацца ў парадку падпіскі.

5. Для ажыцьцяўленьня пастаўленых перад ім задач часопіс павінен базавацца на ўласнай сталай карэспандэнцкай сетцы на мясцох, якую неабходна стварыць з ліку актывістых і ў першую чаргу з кіраўнікоў (старшынь і сакратароў), а таксама інструктароў, інфарматараў і іншых работнікаў саветаў і выканкомаў.

6. Для кіраўніцтва часопісам „Саветы Беларусі" і яго рэдагаваньня ўтварыць Рэдакцыйную Калегію з 5—7 таварышоў, у тым ліку Адказнага Сакратара Рэдкалегіі.

## Да ўсіх саветаў і выканкомаў, да ўсіх савецкіх актывістых і актывістак БССР.

Пачынаючы з гэтага нумару, „Саветы Беларусі" выходзіць, як асобнае падпіснае выданьне—орган Прэзыдыуму ЦВК БССР па савецкім будаўніцтве.

Гэтага вымагаюць, ускладняючыяся ў сувязі з шпаркім разгортваньнем тэмпаў сацыялістычнай індустрыялізацыі, суцэльнае калектывізацыі і зьвязанае з ёю ліквідацыі кулацтва як клясы, у БССР—задачы нашых саветаў і выканкомаў.

Каб правесьці пераможна апошні і рашаючы бой з капіталізмам у нашай краіне, органы пралетарскай дыктатуры і, асабліва, асноўныя яе зьвеньні—саветы павінны быць максымальна ўдасканалены і ўзмоцнены.

Адным з шляхоў дасягненьня гэтае мэты зьяўляецца наладжанасьць кіраўніцтва, абмену вопытам працы, разгортваньне крытыкі і самакрытыкі ў дзейнасьці саветаў і выканкомаў, падхопліваньне і распаўсюджваньне ініцыятывы і лепшых прыкладаў працы мясцовых работнікаў, масавае абгаварэньне новых праблем і спрэчных пытаньняў арганізацыі, форм і мэтадаў працы ў галіне савецкага будаўніцтва.

На наш часопіс „Саветы Беларусі" і ўскладзена выкананьне гэтых задач.

Рассылаючы бясплатна першы падвойны нумар часопісу для азнаямленьня, мы просім Вас аказаць усямерную дапамогу і падтрыманьне нашаму пачынаньню.

Сваe задачы наш часопіс „Саветы Беларусі“, у першую чаргу разьлічаны на нізавы савецкі актыў, з посьпехам здолее выканаць толькі пры актыўнай дапамозе з боку кожнага выканкома і савета, з боку кожнага савецкага працаўніка і актывістага.

Гэтыя задачы з посьпехам будуць разьвязаны толькі тады, калі часопіс дасягне сваe мэты—мець у кожным савеце і выканкоме, у асобе кожнага сьвядомага савецкага працаўніка і актывістага сваіх сталых дапісчыкаў.

Саветы і выканкомы, абгаварэце на сваіх паседжаньнях і вызначце практычныя шляхі і мерапрыемствы вашага актыўнага падтрыманьня часопісу „Саветы Беларусі“, вылучайце сваіх сталых карэспандэнтаў, падпісвайцеся і распаўсюджвайце падпіску на свой часопіс, пішэце ў часопіс, давайце сваe заўвагі і водзывы аб ім.

Працаўнікі саветаў і выканкомаў і савецкія актывістыя, падтрымлівайце сталую сувязь з вашым органам—„Саветы Беларусі“. Гэтым вы дапаможаце вялікай справе ўзьняцьця якасьці працы ўсяго савецкага апарату, у тым ліку і вашай асабістай працы, на новую вышэйшую ступень.

Сакратар ЦВК БССР **А. Хацкевіч.**

# Задачы веснавой с.-г. кампаніі ў сувязі з праверкай і датэрміновымі перавыбарамі саветаў.

Магутнае разьвіцьцё сацыялістычнай прамысловасьці, а праз гэта—умацаваньне вытворчай сувязі паміж горадам і вёскай, прывяло сельскую гаспадарку нашай краіны да радыкальнай рэконструкцыі. На аснове гэтага разбураюцца старыя формы і мэтады гаспадараваньня, як такія, што стрымліваюць рост вытворчых сіл сельскай гаспадаркі. Той калгасны рух, якім ахоплены самыя шырокія масы батрацтва, беднаты і серадняцкага сялянства, якраз сьведчыць аб тым, наколькі правільнай была генэральная лінія палітыкі партыі на вёсцы.

Веснавая сяўба гэтага году, зьвязаная з карэннай зьменай старых вытворчых адносін на вёсцы, зьвязаная з ліквідацыяй кулацтва, як клясы, павінна быць кампаніяй хуткага росту сацыялістычнай сельскай гаспадаркі, рашучага зжываньня дыспропорцыі паміж разьвіцьцём прамысловасьці і сельскай гаспадаркі.

Пастолькі, паколькі мы маем шырокае разгортваньне калгаснага руху, „цяпер у нас ёсьць матар'яльная база для таго, каб замяніць кулацкую вытворчасьць вытворчасьцю калгасаў і саўгасаў“ (Сталін). Гэта значыць, што сялянам, аб'яднаным у калактывы, трэба ў значнай меры павялічыць сваю пасеўную плошчу, сваю вытворчасьць супроць таго, што яны засявалі, будучы дробнымі гаспадарамі, трэба зямлю апрацаваць значна лепш, культурней, чым апрацоўвалі раней. Гэта значыць, што ім трэба ня толькі перакрыць сваёй вытворчасьцю вытворчасьць кулацкай часткі вёскі, але і павялічыць агульную і таварную прадукцыю сельскай гаспадаркі нашай краіны паводле плянаў пяцігадовага разьвіцьця і вышэй гэтых плянаў шляхам павялічэньня сваe калектыўнае вытворчасьці. Гэтыя практычныя задачы калгаснага будаўніцтва можна вырашыць толькі пры ўдзеле асноўнае масы калгасьнікаў і ў першую чаргу—батрацтва і беднаты. Пытаньні правільнай арганізацыі грамадзкай вытворчасьці непарыўна зьвязаны з пытаньнямі арганізацыі беднаты і батрацтва, бо мы зможам зрабіць калгас сапраўды ўстойлівым і моцным толькі тады, калі будзем апірацца на вясковую бедноту, вылучаючы з яе кіруючыя кадры ў калгасах, памагаючы згуртаваньню калгасьнікаў на аснове аграмаджанай вытворчасьці.

Усё гэта патрабуе рашуча перабудаваць працу саветаў на вёсцы.

Неабходнасьць новых мэтадаў і форм работы саветаў высоўваецца ня толькі задачамі соцыялістычнага будаўніцтва ў земляробстве, але ўсім ходам клясавае барацьбы на вёсцы.—На супраціўленьне клясавага ворага мы павінны адказаць такою перабудоваю нашых нізавых органаў улады, якая забясьпечыла-б хутчэй-

шы разгром кулака, у прыватнасьці яго ліквідацыю ў раёнах суцэльнай калектывізацыі.

Другі важны момант работы саветаў—гэта як наладжана ім масавая і арганізацыйна-вытворчая работа. Нікуды ня варты той с.-савет, які нічога не зрабіў у гэтай галіне, бо посьпех усяе нашае працы, у тым ліку аднаго з важнейшых яе чарговых зьвеньняў веснавой пасеўнай кампаніі, будзе залежыць ад таго, наколькі мы зможам мабілізаваць і правільна разьмеркаваць усе нашы сілы па ўсіх вучастках работы.

Выключнае значэньне загэтым набывае работа сельска-гаспадарчых вытворчых нарад, як новых форм масавай працы сельсаветаў, як аднаго з лепшых шляхоў мабілізацыі сіл, уцягваньня батрацкіх і бядняцка-серадняцкіх мас сялянства да актыўнай працы ў справе сацыялістычнай рэканструкцыі нашай вёскі.

Улічваючы ўсё гэта—урад Саюзу ўхваліў правесьці агульную справаздачна-праверачную кампанію па ўсіх саветах і „зрабіць датэрміновыя перавыбары сельсаветаў, склад якіх засьмечаны чужымі элемэнтамі, якія не змаглі, апіраючыся на батрацкія і бядняцка-серадняцкія масы сялянства, стаць на чале сацыялістычнай перабудовы вёскі і кіраваць калгасным рухам, а таксама зрабіць перавыбары ўсіх сельскіх саветаў у раёнах суцэльнай калектывізацыі пад кутом узмацненьня іх кіруючага ўплыву ў сацыялістычнай перабудове вёскі і большага ўзмацненьня ў іх батрацка-бядняцкіх слаёў насельніцтва і актыву калгасьнікаў“.

Справаздачна-праверачная кампанія саветаў, поўныя перавыбары саветаў у раёнах суцэльнай калектывізацыі, частковыя перавыбары ў другіх раёнах,—арганічна зьвязаны з тою барацьбою якая разгортваецца зараз на вёсцы за далейшае разьвіцьцё калгаснага руху, за падвышэньне якасьці колгасаў, за стварэньне сапраўды калектыўнай вытворчасьці.

Гэтая кампанія непасрэдна зьвязана з выкананьнем лёзунгу аб ліквідацыі кулацтва як клясы ў раёнах суцэльнай калектывізацыі. У ходзе самае кампаніі будуць мабілізаваны шырачэзныя масы беднаты і серадьнякоў вакол задач калектывізацыі, тым самым забясьпечваючы правільнае вырашэньне задач раскулачваньня.

Ліквідацыя кулацтва як клясы—буйная палітычная задача, якая патрабуе клясавай стойкасьці і вытрыманасьці, пры наяўнасьці бальшавіцкай рашучасьці ў падаўленьні няпрымірымага ворага калектывізацыі—кулака.

Разам з гэтым трэба падкрэсьліць, што палітыка ліквідацыі кулацтва ня ёсьць палітыка голага раскулачваньня. Спробы вырашаць буйную палітычную задачу звычайным адміністраваньнем, голым раскулачваньнем без падвядзеньня моцнае базы суцэльнае калектывізацыі, без мабілізацыі ініцыятывы і актыўнасьці шырачэзных мас батрацтва, беднаты і серадьнякоў, не даюць вырашэньня задач, якія стаяць перад партыяй.

Шырока разгорнутая палітычная работа вакол перавыбараў дапаможа правільна арыентаваць батрацкія і бядняцка-серадняцкія масы ў выкананьні гэтых задач, дапаможа арганізаваць веснавую сяўбу, пабальшавіцку, паставіць саветы на чале працэсаў сацыялістычнай перабудовы вёскі.

Ператварэньне ўсіх нізавых саветаў у баявыя штабы сацыялістычнага наступленьня—важнейшая ўмова посьпехаў веснавой сяўбы. У гэтым значную дапамогу прынясуць тыя 600 рабочых, якія ўжо накіраваліся ў калгасы БССР. Але-ж, бясспрэчна, што карэнная перабудова работы с.-саветаў, як органаў пралетарскай дыктатуры на вёсцы, патрабуе далейшага ўмацаваньня пралетарскага кіраўніцтва с.-саветамі, пралетарскага ўплыву ў с.-саветах. Таму нязвычайна важнай зьяўляецца ініцыятыва рабочых заводу „Серп і Молат“ аб пасылцы лепшых рабочых на працу ў сельскія саветы, якую падтрымалі рабочыя БССР вылучаючы прадстаўнікоў гарадзкога актыву ў якасьці працаўнікоў на вёску.

Тэрміны справаздачна-праверачнай і перавыбарчай кампаніі кароткія, бо ўжо надыходзіць вясна. Гэта вымагае, каб ударнымі тэмпамі кампанія была даскакала арганізавана і праведзена ў тэрмін, не марудзячы з тым, каб ужо ў пачатку сяўбы мы мелі заместа непрацаздольных саветаў, новыя, якія сапраўды ідуць на чале мас, арганізуюць іх, кіруюць іх барацьбой супроць капіталізму за суцэльную калектывізацыю Савецкай Беларусі.

**Ф. Рачыцкі.**

# Аб ходзе суцэльнай калектывізацыі ў БССР і ліквідацыі кулацтва як клясы.

Генэральная лінія камуністычнай партыі накіравана на індустрыялізацыю краіны і выкарчоўваньне карэньняў капіталізму гораду і вёскі. Правільнае, цьвёрдае ажыцьцяўленьне генэральнае лініі партыі, рост палітычнай актыўнасьці рабочае клясы і ўзмацненьне яе кіруючай ролі ва ўсім сацыялістычным будаўніцтве, тыя посьпехі, якіх мы дасягнулі за апошні год у стварэньні тэхнічнай базы для рэканструкцыі сельскае гаспадаркі,—усё гэта забясьпечыла вялізарнейшыя тэмпы калгаснага будаўніцтва і ў нас, у БССР.

*Калгасны рух у БССР, які шырока разгарнуўся пасьля ХУ Зьезду УсеКП(б), набыў асабліва калёсальны разьмер у мінулым 1929 годзе і перайшоў на рэйкі суцэльнасьці за апошнія 4—5 месяцаў,* калі ў справе калектывізацыі прынялі шырокі ўдзел усе партыйныя і савецкія органы, камсамольскія, каапэрацыйныя і іншыя грамадзкія арганізацыі сумесна з шматтысячным вясковым актывам. Вось чаму,—калі на І-Х—1928 г. калектывізацыяй ахоплена было 1,12 проц. сельскагаспадарчай плошчы Рэспублікі, то на І-Х—1929 г. было калектывізавана 3,9%, на 1-ІІ—1930 г.—46,9 проц., на 10-ІІ—59,6 проц., а на 20-ІІ—65 проц., альбо 2.699.093 *га* пахаці.

У сьнежані мінулага году, згодна заявак акруговых выканаўчых камітэтаў, СНК БССР пастанавіў *вылучыць, як мінімум, для суцэльнай калектывізацыі цалкам Магілеўскую акругу і 15 раёнаў іншых акруг,* з тым, каб 100-проц. калектывізацыя бядняцка-серадняцкіх гаспадарак Магілеўшчыны была скончана да канца 1930 г., а 15 раёнаў суцэльнай калектывізацыі — да пачатку веснавой кампаніі г. г. Студзеньскі Пленум ЦК КП(б)Б паставіў перад Партыяй і ўсёй пралетарскай грамадзкасьцю задачу—*калектывізаваць на працягу 2-х год усе бядняцка-серадняцкія гаспадаркі БССР.*

Той калёсальны ўздым, энтузыязм і напор шырачэйшых батрацка-бядняцкіх і серадняцкіх мас, якія ствараюць сучасныя тэмпы калектывізацыі, даюць упэўненасьць у тым, што *суцэльная калектывізацыя БССР будзе праведзена ў больш кароткі тэрмін.*

Яшчэ на 20 ІІ г. г. мы маем апрача Магілеўскай акругі, дзе пад калгасамі знаходзіцца 594.303 *га*, альбо 81,7 проц. усёй пахаці акругі, цэлы шэраг акруг суцэльнай калектывізацыі: *Мазырская*, (калектывізавана 90,5 проц. з 287.541 *га* калгаснай плошчы пахаці), *Віцебская*—(70,4 проц. калектывізацыі на плошчы 297762 *га*), *Аршанская* (77 проц. калектывізацыі на плошчы 386.671 *га*) і *Полацкая*—(78,5 калектывізацыі на плошчы 262092 *га*), сьледам за імі ідуць Бабруйская акруга (293.599 *га* і 50,3 проц. калектывізацыі), Менская (379.482 *га* калгаснай плошчы і 49,4 проц. калектывізацыі) і Гомельская (197.663 *га* і 39,6 проц. калектывізацыі).

Разам з павялічэньнем тэмпаў калектывізацыі за апошні час значна ўзрасьлі сярэднія разьмеры як арганізуемых, так і старых калгасаў. Калі яшчэ толькі год таму назад у БССР арганізаваліся калгасы-карлікі (сярэдняя плошча калгасу на 1-Х—28 г. складала 95 *га*), то зараз арганізуюцца выключна буйныя калгасы па некалькі тысяч *га* зямлі кожны (на 20-ІІ—30 г. па БССР сярэдняя плошча пахаці аднаго калгасу складае 710,8 *га*). Зараз па БССР у кожнай акрузе маюцца дзесяткі буйнейшых калгасаў па 10—15 і звыш тысяч *га*, а такія волаты, як Ляднянска-Дубровенскі (Аршанскай акр.) і Рагачоўска-Жлобінскі (Бабруйскай акр.) агра-індустрыяльныя калгасы-камбінаты маюць па 80—100 тысяч *га* зямельнае плошчы кожны. *Усё гэта канстатуе факт пераходу ўсёй БССР у фазу суцэльнай калектывізацыі.*

Паколькі мільёнными масы бядняцка-серадняцкага сялянства, на практыцы пераканаўшыся ў перавагах буйнае гаспадаркі ў земляробстве, магутнай хваляй рушыліся ў калгасы, ламаючы на сваім шляху старыя грамадзкія адносіны, пры якіх разьвівалася база з драбнейшых індывідуальных сялянскіх гаспадарак, што гадуе капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі; паколькі стварыліся ўмовы

для замены вытворчасьці кулацкай гаспадаркі вытворчасьцю калгасаў і саўгасаў, і паколькі гэтая замена ажыцьцяўляецца, палітыка пралетарскай дзяржавы, якая зводзілася раней да абмежаваньня кулацка-капіталістычных элемэнтаў вёскі, зараз зьмяняецца на палітыку выкарчоўваньня карэньняў капіталізму ў нашай краіне, на палітыку ліквідацыі кулацтва як клясы.

*Зараз для ўсіх зразумела, што барацьба за суцэльную калектывізацыю зьяўляецца барацьбой батрацкіх, бядняцкіх і серадняцкіх мас вёскі за ліквідацыю кулака як клясы.* Толькі праваапортуністычныя галавацяпы маглі меркаваць, што ў раёнах суцэльнай калектывізацыі кулацкая небясьпека ня мае моцы, што кулак, якому „няма куды падацца“, будзе „мірна ўрастаць у сацыялізм“. Няма „добрых“ і „дрэнных“ кулакоў: клясавы вораг—заўсёды вораг, ён вядзе і будзе весьці сваю барацьбу супроць калектывізацыі да тэй пары, пакуль ня будзе канчаткова і поўнасьцю ліквідаваны.

Мы маем шмат прыкладаў, калі азьвярэўшы кулак адчуваючы сваё зьнішчэньне як клясы, вёў самую бязьлітасную адкрытую барацьбу, якая праяўлялася ў шэрагу тэрарыстычных актаў—забойстваў, падпалаў, зьнішчэньні калгаснай маёмасьці і г. д. Зараз кулак зьмяніў сваю палітыку, ён робіць спробы самаліквідацыі шляхам распродажу інвэнтару, забою і распродажу жывёлы, зьнішчэньня насеньня і інш., а таксама разгарнуў шалёную агітацыю сярод менш сьвядомай часткі сялянства за разбазарваньне ім сродкаў вытворчасьці сваёй сельскай гаспадаркі. Трэба павесьці самую рашучую барацьбу супроць гэтай выключна шкоднай дзейнасьці кулака.

*Калі калектывізацыя зьяўляецца мэтадам ліквідацыі кулацтва як клясы, дык сродкам гэтай ліквідацыі зьяўляецца раскулачваньне.* Гэта ня фізычнае зьнішчэньне кулака, а пазбаўленьне яго вытворча-эканамічнай базы, узяцьце ў арганізаваным парадку ў кулака ўсіх сродкаў вытворчасьці, усяго таго, што ён нарабаваў, нажыў на эксплёатацыі батракоў, беднякоў і серадкякоў, і перадача ў агульнае карыстаньне калгасам. *Уся маёмасьць кулакоў павінна быць апісана і залічана ў непадзельныя капіталы калгасаў.* Ні ў якім разе нельга дапушчаць разбазарваньня гэтай маёмасьці. Кулакі, якія разбазарваюць сваю маёмасьць, ці тыя асобы, якія купляюць гэтую маёмасьць, павінны падлягаць суровай крымінальнай адказнасьці. У раёнах суцэльнай калектывізацыі трэба ў кулакоў канфіскоўваць усе сродкі вытворчасьці, жылыя і с.-г. будынкі, жывёлу, с.-г. інвэнтар і г. д. Але ні ў якім разе нельга падмяняць палітыку абагуленьня ў калгасах канфіскаванай кулацкай маёмасьці палітыкай дзялёжкі гэтай маёмасьці для асабістага карыстаньня. Праводзячы ўсе гэтыя мерапрыёмствы, адначасова неабходна рашуча ажыцьцяўляць дырэктывы аб ачыстцы калгасаў ад кулацкіх, нэпманскіх і інш. антысавецкіх элемэнтаў, якія пралезьлі ў значную частку калгасаў з мэтай падрыву калгаснага будаўніцтва знутры. Пры выключэньні гэтых элемэнтаў з калгасаў усе іх сродкі вытворчасьці, маёмасьць, паявыя ўзносы і ўклады пакідаць у калгасах, залічваючы іх у непадзельныя фонды. Ліквідацыя кулацтва як клясы,—гэта ня толькі адбіраньне ў кулака пры правядзеньні суцэльнай калектывізацыі зямлі і сродкаў вытворчасьці, а таксама і рашучая барацьба з кулацкім уплывам унутры калгасаў.

Новы статут с.-г. арцелі, зацьверджаны НКЗ СССР, кажа, што „безгаспадарчыя і нядбайныя адносіны да абагуленага інвэнтару і жывёлы разглядваюцца ар цельлю як здрада ў справе калектывізацыі, як практычная дапамога ворагу-кулаку“. Сьвядомая цьвёрдая калгасная дысцыпліна, барацьба супроць разгільдзяйства, хуліганства і шкодніцтва і рашучая ачыстка калгасаў ад кулацка-нэпманскіх элемэнтаў павінны быць супроцьпастаўлены шкодніцкай дзейнасьці кулацтва.

Ліквідацыя кулацтва як клясы патрабуе тэрміновай працы па хутчэйшай арганізацыі батрацтва і беднаты і поўнага іх уцягненьня ў калгасы, а таксама стварэньня батрацка-бядняцкіх груп ува ўсіх калгасах у першым пэрыядзе іх існаваньня, у павялічэньні ўдзельнай вагі і ўплыву батрацтва і беднаты ў кіруючых органах калгасаў. Асноўным зьместам працы батрацка-бядняцкіх груп, пад

кіраўніцтвам партыйных ячэек, павінна быць разгортваньне масавай работы сярод батрацтва і беднаты, ачыстка калгасаў ад кулацкіх і нэпманскіх элемэнтаў, павялічэньне непадзельных капіталаў калгасаў, у першую чаргу праз абагуленьне сродкаў вытворчасьці калгасьнікаў, організацыю працы і яе аплаты ў калгасах і г. д.

Трэба, каб уся найбольш адказьнейшая праца ў калгасах ускладвалася на батрацтва і беднату, якія павінны атрымоўваць належную кваліфікацыю, пасылацца ў першую чаргу на розныя курсы і г. д. У час перавыбарчай кампаніі трэба праводзіць працу такім чынам, каб у кіруючыя органы калгасаў уцягнуць магчыма больш батракоў, беднаты і лепшых калгасьнікаў-сераднякоў, дабіваючыся ўцягненьня ў іх склад ня менш 35 проц. жанчын.

Паколькі ў шэрагу месц імкнуцца да арганізацыі вышэйшых калгасных форм—камун, ня ўлічваючы, наколькі да гэтага падрыхтавана насельніцтва, якое калектывізуецца, трэба, галоўным чынам, дапамагаць арганізацыі с.-г. арцеляў, захоўваючы ўсе правілы па арганізацыі калгасаў, афармляючы ўступленьне ў калгас асобных членаў іх асабістымі пісьмовымі заявамі. Пасьля афармленьня калгасу неабходна абагульваць інвэнтар і рабочую жывёлу, прыстасоўваючы наяўныя памяшканьні, адначасова прыступаючы да арганізацыі машынна-конных станцый. Разам з гэтым трэба абагульваць усю буйную рабочую і прадукцыйную жывёлу і неабходныя кармы, пры гэтым у асобных выпадках, выходзячы з мясцовых умоў (значная адлегласьць дастаўкі малака, адсутнасьць прыстасаваных памяшканьняў і г. д.), згодна пастановы калгасу, магчыма кожнай паасобнай сям'і пакідаць па 1 карове, у часовае карыстаньне. Дробная жывёла і птушкі на гэтым этапе калгаснага будаўніцтва не абагульваюцца, за выключэньнем племянных і мэтысных сьвіньняў, якія абагульваюцца для арганізацыі спэцыяльных племянных рассаднікаў.

Задача ліквідацыі кулацтва як клясы павінна быць вырашана беднатой, батрацтвам і серадняцкімі масамі пры самай актыўнай дапамозе рабочай клясы і пад кіраўніцтвам партыі. Зараз перад тымі 600 рабочымі, якія накіраваліся з гораду ў вёску, каб дапамагчы бядняцка-серадняцкім масам у іх барацьбе з кулаком за новую буйную сацыялістычную гаспадарку, стаіць абавязак сумесна з батрацка-бядняцка-серадняцкімі калгаснымі масамі вырашыць гэтую вялізарнейшую задачу па ліквідацыі кулацтва як клясы.

Зараз ва ўсёй БССР кіпіць жорсткая бойка з апошняй рэшткай капіталізму, выкарчоўваюцца апошнія яго карэньні на вёсцы. Мільённыя масы батрацтва, беднаты і серадзнякоў, пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі і саветаў, ліквідуюць кулацтва, як клясу, ствараюць суцэльныя калгасы-раёны, будуюць новую сацыялістычную гаспадарку, новую сацыялістычную бясклясавую грамаду.

**Сьмірноў.**

---

**Па-баявому разгорнем веснавую сяўбу, замацуем і павялічым дасягненьні суцэльнай калектывізацыі БССР.**

---

**Рацыянальна арганізуем калгасную вытворчасьць. Усе сілы—на ўзмацненьне існуючых і ствараемых калгасаў.**

# ТЭЗІСЫ

## да міжнароднага камуністычнага жаночага дня 8 сакавіка.

1. Міжнародны Камуністычны Дзень 8 сакавіка—Дзень міжнароднай салідарнасьці працоўных жанчын усяго сьвету, дзень агляду рэвалюцыйных сіл пралетарак у барацьбе за сусьветную пралетарскую рэвалюцыю, за пераможнае будаўніцтва сацыялізму ў краіне саветаў, за выкарчоўваньне карэньняў капіталізму і канчатковае зьнішчэньне капіталістычных элемэнтаў у СССР.

8 сакавіка ў гэтым годзе—годзе вялікага пералому, мы праводзім у абставінах вялізарнейшых зрухаў, як унутры нашае краіны—у справе нябачанага размаху сацыялістычнага будаўніцтва, вялікага творчага ўздыму шырачэйшых працоўных мас, так і па-за межамі—ў справе нарастаньня клясавых боек пралетарыяту з буржуазіяй і абвастрэньня барацьбы працоўных мас калёній супроць капіталістычнага рабства.

2. У той час, калі краіна саветаў шпаркімі крокамі ідзе наперад па шляху пабудовы сацыялізму, усё больш разрастаецца развал капіталістычнае сыстэмы. Аб гэтым яскрава сьведчыць эканамічны крызіс у Амэрыцы, гэтай дасюль квітнеўшай капіталістычнай краіне, крызіс, які пачынае захопліваць і інш. капіталістычныя краіны (Нямеччына, Польшча, Англія і інш.). Аб гэтым яскрава сьведчыць нябачаны рост беспрацоўя, які дасягнуў у капіталістычных краінах агромністае лічбы—20 мільлёнаў, што (лічучы і сем'і) абракае на голад і фізычнае выраджэньне 80—100 мільёнаў чалавек. Апрача разгортваючагася гаспадарчага крызісу, вялікі ўплыў на рост беспрацоўя аказала капіталістычная рацыяналізацыя, якая выкідвае на вуліцу сотні тысяч і мільёнаў рабочых і работніц, адначасова павялічваючы да нячуваных разьмераў эксплёатацыю тых, якія застаюцца ў вытворчасьці, рабочых, паніжаючы і без таго галодную зарплату, павялічваючы рабочы дзень (пры скарачэньні яго—няпоўны рабочы тыдзень у ахопленых крызісам галінах прамысловасьці), падымаючы інтэнсыўнасьць працы і г. д. У выніку рэзка ўзрасьлі для пралетарыяту галота і капіталістычны прыгнёт, які асабліва часта адбіваецца на становішчы работніц, якія зьяўляюцца менш арганізаванымі і найбольш эксплёатуемым атрадам рабочае клясы.

3. Той, што прогрэсуе, развал гнілой капіталістычнай стабілізацыі, абвастрэньне гаспадарчага крызісу, цяжкасьці для працоўных капіталістычнае рацыяналізацыі, вялізарны рост беспрацоўя, той што моцна рэвалюцыянізуе ўплыў пераможнага соцыялістычнага будаўніцтва, у СССР, беззаветная рэвалюцыйная барацьба братэрскіх кампартый—усё гэта выклікае вялізны ўздым рабочага руху на Захадзе, які ўсё больш і больш пераходзіць да вышэйшых форм клясавай барацьбы. Ад эканамічных стачак, пралетарыят пераходзіць да палітычных забастовак, вулічных дэманстрацый, да ўзброеных сутычак з капіталізмам. Рабочыя і работніцы выходзяць на вуліцу, каб змагацца ўжо не з паасобнымі капіталістымі, а з капіталістычнаю дзяржаваю за савецкую сацыялістычную рэспубліку. Кожны новы дзень прыносіць зьвесткі аб такіх дэманстрацыях, забастоўках і ўзброеных сутычках у Нямеччыне, Польшчы, Італіі і інш. краінах.

Дзень 6 сакавіка абвешчаны Камуністычным Інтэрнацыяналам днём сумеснай барацьбы рабочых і беспрацоўных супроць беспрацоўя.

6 і 8 сакавіка рабочыя і работніцы капіталістычных краін сумесна з працоўнымі савецкага саюзу будуць дэманстраваць супроць эксплёатацыі і падняволеньня жанчыны-пралетаркі капіталам, за падвышэньне заработнай платы, за 8-мігадзінны рабочы дзень, супроць беспрацоўя, за адзіны рэвалюцыйны фронт беспрацоўных і рабочых з вытворчасьці.

4. На базе ўздыму рабочага руху растуць сілы Камуністычнага Інтэрнацыяналу, усё новыя арміі рабочых і работніц, якія ўпэўніліся ў здрадніцтве сацыял-фашыстых, пераходзяць пад сьцяг Камуністычных партый. Пашыраецца рэвалюцыйны рух працоўных, прыгнечаных у калёніях (Індыя, Кітай і інш.).

На працягу доўгіх гадоў сацыял-дэмакратыя буржуазных краін стрымлівала рэвалюцыйны рух пралетарыяту. Зараз яна, выконваючы клясавы загад буржуазіі, са зброяй у руках падаўляе рэвалюцыйны рух унутры краіны і ў калёніях. Бязьлітасная барацьба з сацыял-фашыстымі за масы,—галоўнейшая задача ў сучасны момант.

5. 6 і 8 сакавіка, работніцы і ўсе працоўныя жанчыны разам з усімі працоўнымі будуць дэманстраваць супроць падрыхтоўкі да новых імпэрыялістычных боек і да нападу на Савецкі Саюз, за абарону СССР—бацькаўшчыны рабочых і прыгнечаных нацыяў усяго сьвету.

Посьпехі сацыялістычнага будаўніцтва ў Савецкім Саюзе выклікаюць шалёную кампанію хлусьні на краіну Саветаў з боку імпэрыялістых і іх служак—сацыял-фашыстых, што зьяўляецца паказчыкам падрыхтоўкі да нападу на СССР. Канфлікт на КУ чыгунцы зьяўляецца сыгналізуючай перасьцярогай для працоўных усяго сьвету. Усё гэта патрабуе асаблівай пільнасьці працоўных жанчын па пытаньнях абароны краіны.

Масамі ўцягнем працоўных жанчын у рады ТСА-АВІЯХІМУ.

Працоўныя жанчыны павінны ўзмацніць сваю вайсковую падрыхтоўку, навучаючыся ў розных вайсковых гуртках.

6. Работніцы і сялянкі сумесна з усімі працоўнымі савецкае краіны павінны заўсёды памятаць тыя вялікія задачы, якія стаяць перад імі ў барацьбе міжнароднага пралетарыяту за камунізм.

Вялікая адказнасьць ляжыць на працоўных першае ў сьвеце краіны пралетарскае дыктатуры, бо яна зьяўляецца першым атрадам

сусьветнай пралетарскай рэвалюцыі. Свае пралетарскія абавязкі работніцы і працоўныя сялянкі Савецкага Саюзу цалкам выконваюць, актыўна змагаючыся за ажыцьцяўленьне пяцігодкі, за шпаркі тэмп індустрыялізацыі і калектывізацыі краіны, выкарчоўваючы з карэньнямі рэшткі капіталізму ў краіне, змагаючыся за ліквідацыю кулацтва, як клясы.

7. Першы год выкананьня пяцігодкі яскрава сьведчыць, што пяцігадовы плян разьвіцьця народнае гаспадаркі мы зможам выканаць у чатыры гады. На гэтай галоўнай задачы павінна быць згуртавана ўвага шырокіх мас работніц, батрачак, калгасьніц, бедняцка-серадняцкіх жанчын вёскі.

Дзень 8 сакавіка павінен накіраваць энэргію і волю работніц на пасьпяховае выкананьне прамфінпляну шляхам шырокае самакрытыкі, павёўшы рашучую барацьбу супроць страт у вытворчасьці, прагулаў, за палепшаньне якасьці прадукцыі, зьніжэньне сабекошту, узьняцьцё кваліфікацыі работніц. 8 сакавіка работніцы з усёю сілаю возьмуцца за арганізацыю ўдарных брыгад, за пагалоўнае ўцягненьне ўсіх работніц у сацыялістычнае спаборніцтва. Пашырыць утварэньне новых ударных цэхаў, заводаў, фабрык—наш лёзунг 8 сакавіка. Праз уздым вытворчасьці работніцы, мы садзейнічаем хутчэйшай калектывізацыі вёскі. Вопыт арганізаванага пралетарыяту ў вытворчасьці работніцы, якія ўдзельнічаюць у калектывізацыі, перанясуць у справу сацыялістычнае перабудовы вёскі.

8. На грунце разьвіцьця індустрыялізацыі шпарка разгарнуўся калгасны рух на вёсцы, які ахапіў асноўныя бедняцка-серадняцкія масы сялянства. Мы маем усе падставы, для таго, каб правесьці калектывізацыю Беларусі ў самы кароткі тэрмін. Калгасны рух адбываецца ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы. Разьвіцьцё народнае гаспадаркі, суцэльная калектывізацыя склалі ўмовы для таго, каб кулацкую вытворчасьць на вёсцы ня толькі замяніць, а ў некалькі разоў перакрыць вытворчасьцю калгасаў і саўгасаў.

Ад палітыкі абмежваньня кулака партыя перайшла да палітыкі ліквідацыі кулацтва як клясы, на падставе суцэльнай калектывізацыі.

Раскулачваньне кулака на падставе суцэльнай калектывізацыі, згуртаваньне батрацкабедняцкіх і серадняцкіх мас сялянства для рашучай ліквідацыі кулацтва, як клясы зьяўляецца асноўнай нашай задачай. На гэта мы павінны зараз мабілізаваць усю актыўнасьць працоўных жанчын вёскі. Перадавая частка працоўных жанчын, дэлегаткі, калгасьніцы, батрачкі і жаночы актыў павінны даць рашучы адпор усякім спробам кулацтва агіднай хлусьнёй скарыстаць няпісьменнасьць і несьвядомасьць адсталае часткі беднячак і серадначак у мэтах перашкоды калектывізацыі. Лепшай адзнакай 8 сакавіка будзе масавае ўступленьне батрачак і бедняцка-серадняцкіх мас жанчын у калгасы.

9. Пасьпяховае правядзеньне пасеўнае кампаніі, масавая арганізацыя новых калгасаў— наш лёзунг 8 сакавіка на вёсцы.

Увага працоўных жанчын павінна быць накіравана на поўнае правядзеньне мерапрыемстваў па абагульненьні насеньня, яго ачыстцы і стварэньні насенных фондаў. Калгасьніцы павінны яскрава ўявіць свае задачы ў справе замацаваньня і ўзьняцьця гаспадаркі калгасаў шляхам поўнага абагульненьня ў першую чаргу рабочай і буйной прадукцыйнай жывёлы і сродкаў вытворчасьці, уступленьня ў калгасы бедняцка-серадняцкіх гаспадарак з усёю маемасьцю.

Зараз адным з галоўных пытаньняў калгаснага будаўніцтва зьяўляецца арганізацыя вытворчасьці і падвышэньне таварнасьці калгасаў,—правільная арганізацыя працы ў калгасах. У гэтай справе вялікую ролю займае жанчына-калгасьніца, ад якой у значнай меры залежыць разьвіцьцё і падвышэньне якасьці прадукцыі ў цэлым радзе галін калгаснай гаспадаркі. Таму правільная арганізацыя працы, у прыватнасьці жаночай, у калгасах павінна стаць у цэнтры ўвагі.

8 сакавіка павінен зрабіць зрух ў справе арганізацыі жаночае працы ў вытворчасьці калгасаў, што дапаможа пераходу на вышэйшую ступень гаспадаркі калгасаў.

8 сакавіка павінен стаць пачаткам разгортваньня сацыялістычнага спаборніцтва па ўдзелу калгасьніц і працоўных сялянак у арганізацыі калгасаў, пасеўнае кампаніі, падвышэньні вытворчасьці калгаснае гаспадаркі.

10. Суцэльная калектывізацыя і зьвязанае з гэтым ажыцьцяўленьне палітыкі зьнішчэньня кулака, як клясы, патрабуе ўзмацненьня саветаў, як органаў пралетарскае дыктатуры, замацаваньня ў іх батрацка-бедняцкага ядра і ачысткі саветаў ад кулацкіх і інш. варожых элемэнтаў. Гэта патрабуе актыўнага ўдзелу батрачак, бедняцка-серадняцкіх мас жанчын у перавыбарах і ў практычнай рабоце груп беднаты пры саветах і інш. арганізацыях на вёсцы (калгасы, каапэрацыя, КСУ). Патрэбна да веснавой сяўбы ўцягнуць у калгасы ўсіх батрачак.

11. Значна ўзрасла актыўнасьць, клясавая сьвядомасьць і ўдзел жанчын у савецкім і гаспадарчым будаўніцтве і ў грамадзкім жыцьці. Аб гэтым сьведчыць рост колькасьці жанчын у вытворчасьці і на кіруючай рабоце. У прамысловасьці мы маем за гэты год рост ліку работніц (па цэнзавой прамысловасьці) з 34 проц. да 40 проц. да ўсяе рабочае сілы. Жанчын у розных выбарных арганізацыях мы маем: у саветах 9.304, у каапэрацыі—11.839, у кіруючых органах калгасаў—522, у прафсаюзных— 9.939.

Вылучана на кіруючую адказную работу: старшынямі сельсаветаў і местачковых саветаў—122 жанчыны, старшынямі і намесьнікамі РВК—5, на платную прафэсыйную работу— 105, дырэктарамі і намесьнікамі дырэктароў фабрык—6 чалавек.

Бурны рост народнае гаспадаркі патрабуе значнае падрыхтоўкі кіруючых кадраў, спэцыялістых і кваліфікаваных рабочых да прамысловасьці і сельскае гаспадаркі.

Політыка партыі накіравана на тое, каб павялічыць кадр спэцыялістых з рабочых і работніц, батрачак, калгасьніц, для папаўненьня кадраў і замены тых спэцыялістых, якія пера-

шкаджаюць пасьпяховаму выкананьню пяцігодкі.

У розных навучальных установах жанчын навучаецца: у ВНУ—915 ч., Рабфаках—285, Тэхнікумах—2.284, прафшколах—1.249, школах ФЗВ—155. Але-ж гэта яшчэ недастаткова. Таму Цэнтральны Камітэт КП(б)Б вынес спэцыяльнае рашэньне аб падрыхтоўцы кадраў і ў прыватнасьці аб палепшаньні работы па ўзьняцьці кваліфікацыі работніц і пасылцы іх на вучобу. Гэта магчыма выканаць толькі тады, калі масы працоўных жанчын уразумеюць важнасьць падвышэньня сваёй кваліфікацыі і агульнай пісьменнасьці. Для хутчэйшай падрыхтоўкі рабочых, работніц, батрачак і калгасьніц на вылучэньне, зараз створан рад курсаў (вылучэнцаў, калгасьнікаў, каапэрацыйных, прафэсыйных і інш.).

12. Посьпехі сацыялістычнага будаўніцтва неразрыўна зьвязаны з узьняцьцем матар'яльнага і культурнага ўзроўню працоўных мас. Стварэньне вытворчых камун рабочых і работніц на прадпрыемствах, калектывізацыя сельскае гаспадаркі, ствараюць умовы для хутчэйшай перабудовы быту на калектыўных падставах, удзел працоўных жанчын у прамысловасьці і вытворчасьці саўгасаў і калгасаў, які ўсё павялічваецца, патрабуе хутчэйшага разьнявoленьня працоўнае жанчыны ад яе не прадукцыйнай працы ў індывідуальна-хатняй гаспадарцы і пабудовы бытавых установ на грамадзкіх пачатках.

З году ў год дзяржава павялічвае сродкі на ахову мацярынства і младзенства і дашкольнае выхаваньне. У 1929-30 г. на гэтую справу адпушчана каля 950.000 руб. Ясьляў, пляцовак, і дзіцячых садоў будзе ў 1930 г.—1.095. Грамадзкімі ўстановамі (каапэрацыя, жакты і інш.) адпушчана 900.000 руб.; пляцовак, ясьляў і дзіцячых садоў грамадзкімі арганізацыямі будзе арганізавана 698 (лічбы няпоўныя).

Ня гледзячы на паступовы рост бытавых установ колькасьць іх не задавальняе нашых запатрабаваньняў. 8 сакавіка актыўнасьць работніц, жонак рабочых і калгасьніц трэба мабілізаваць на адшуканьне грамадзкіх сродкаў прафсаюзаў, жактаў, каапэрацыі, калгасаў і самога насельніцтва для стварэньня ясьляў, дзіцячых садоў, пляцовак, грамадзкага харчаваньня, пральняў і інш.

13. Дзень 8 сакавіка павінен замацаваць інтэрнацыянальную сувязь працоўных жанчын. Работніцы, батрачкі, працоўныя жанчыны павінны даць рашучы адпор спробам клясавага ворага ўнесьці нацыянальную розьнь у шэрагі працоўных. Кулак, нэпман, якой-бы ён ня быў нацыянальнасьці, заўсёды закляты вораг працоўных усіх нацыянальнасьцяў. Таму, бязьлітасна змагаючыся з антысэмітызмам, шовінізмам усіх колераў, і асабліва з нацыянал-дэмократызмам, мы б'ем клясавага ворага. Ва ўмовах Беларусі, дзе пераважная частка—сялянства, правядзеньне беларусізацыі зьяўляецца важнейшай задачай у справе ўзмацненьня кіруючай ролі пралетарыяту ў адносінах да сялянства і ўзмацненьня дыктатуры пролетарыяту. Праводзячы беларусізацыю, партыя ў тойжа час забясьпечвае разьвіцьцё пролетарскай культуры нацыянальных меншасьцяў.

14. Посьпехі, якія дасягнула наша краіна ў справе ўздыму народнае гаспадаркі і культурнага будаўніцтва,—здабыты толькі дзякуючы няўхільнаму правядзеньню гэнэральнай лініі бальшавіцкае партыі, толькі дзякуючы яе сталёвай згуртаванасьці ў барацьбе з усялякімі ўхіламі як у тэорыі, так і на практыцы і асабліва правым, як найбольш небясьпечным у сучасны момант.

Для далейшага пераможнага будаўніцтва сацыялізму, перамаганьня цяжкасьцяў, якія маюцца на нашым шляху, партыя кліча ў свае шэрагі перадавых рабочых і работніц, батрачак, калгасьніц, бядначак.

Ленінскі заклік даў партыі калёну новых барацьбітоў. 8 сакавіка перадавыя работніцы-ўдарніцы, батрачкі і бядначкі—застрэльшчыцы калектывізацыі—у рады Ленінскай партыі!

**Аддзел агітацыі і масавай прапаганды ЦК КП(б)Б.**

---

**Работніца, батрачка і працоўная сялянка—на барацьбу за суцэльную калектывізацыю, за ліквідацыю кулацтва як клясы!**

**Павялічым удзел працоўных жанчын у будаўніцтве—уцягнем больш работніц, батрачак і бядначак у саветы!**

# Бытавыя камісіі—арганізатары сацыялістычнай перабудовы працы і быту працоўных жанчын.

Для таго, каб шырока разгарнуць работу саветаў у галіне палепшаньня працы і быту працоўных жанчын, каб хутчэй накіраваць ініцыятыву і творчую энэргію саміх жанчын-работніц, батрачак, бядначак і серадначак-сялянак на будаўніцтва новых грамадзка-культурных форм быту і выкананьне вялікіх задач сацыялістычнай рэканструкцыі, якія ажыцьцяўляюцца ў сучасны момант савецкай уладай пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі,—у мінулым годзе Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР выдаў закон (апублікаваны ў газэце „Сав. Беларусь" № 138 за 20-VI-29 г.) аб арганізацыі пры ўсіх без выключэньня саветах і выканаўчых камітэтах камісій (сэкцый) па палепшаньню працы і быту працоўных жанчын.

Гэты закон трэба было як найшырэй папулярызаваць сярод працоўных жанчын, каб кожная з іх добра ведала пра бытавыя камісіі, іх задачы і ролю, якую бытавыя камісіі павінны адыграць па разьняволеньню працоўных жанчын, па ўнядрэньні новага быту і г. д.

Як аднесьліся саветы да гэтага важнейшага закону? Нават самая арганізацыя бытавых камісій праведзена яшчэ ня ўсюды, а там, дзе яны арганізаваны, вельмі мала цікавілася дапамогай і наладжваньнем іх работы і яшчэ горш абстаіць справа з падвядзеньнем матар'яльнай базы пад бытавыя камісіі.

Стварэньнем матар'яльнай базы, адшуканьнем сродкаў для бытавых камісій трэба безадкладна і сур'ёзна заняцца, шляхам перадачы ім некаторых грашовых сум ад самаабкладаньня і іншых прыбытковых крыніц. Няма чаго і гаварыць, што пры ўсіх саветах, згодна закону, павінны быць арганізаваны бытавыя камісіі і тыя саветы, што гэтай урадавай пастановы ня выканалі, павінны быць прыцягнуты да адказнасьці.

Жыцьцёвыя ўмовы сёньнешняга дня ставяць перад бытавымі камісіямі вялікія задачы—перабудаваць стары быт працоўных жанчын на сацыялістычны новы лад сучаснасьці, увязваючы сваю практычную работу па выкананьні гэтых задач з усімі мерапрыемствамі, якія зараз праводзяцца з мэтай паскарэньня тэмпаў пабудовы сацыялізму, як індустрыялізацыя краіны, калектывізацыя бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і ліквідацыя кулацтва як клясы, перавыбары саветаў, веснавая с-г. кампанія, кампанія за выкананьне прамфінпляну і г. д. і г. д.

На выкананьні вышэйадзначаных задач максымальна павінна быць мабілізавана ўвага як саветаў і выканкомаў, гэтак сама і ўсіх працоўных мас гораду і вёскі, у прыватнасьці, працоўных жанчын у дзень сьвяткаваньня 8 сакавіка—Міжнароднага Камуністычнага Жаночага Дню—з тым, каб справа ўключэньня ўсяе масы працоўных жанчын у шэрагі актыўных барацьбітоў за сацыялізм і яго будаўнікоў сапраўды зрабілася не эпізодам, не кампаніяй, а непадзельнай арганічнай часткай работы саветаў і выканкомаў, прасякаючай усе галіны іх дзейнасьці. Бытавыя камісіі, праз якія ў першую чаргу на саветы і выканкомы кладзецца выпаўненьне гэтых задач, павінны быць забясьпечаны з боку ўсіх саветаў, выканкомаў і ўстаноў, паўнейшай увагай і падтрыманьнем.

Ніводнага дня нельга цярпець, каб у нас былі яшчэ саветы, дзе не арганізаваны бытавыя камісіі. У зьвязку з Міжнародным Камуністычным днём і праходзячай справаздачна-праверачнай і перавыбарчай кампаніяй саветаў, трэба ажывіць і праверыць работу існуючых бытавых камісій, забясьпечыць іх матар'яльнай базай і поўным ходам разгарнуць іх працу.

Пры стварэньні адпаведных умоў і дастатковай увазе да бытавых камісій, а так яно павінна быць, бытавыя камісіі зробяцца сапраўдным вялікім памоцнікам у практычным штодзенным ажыцьцяўленьні тых вялізарных задач, што хуткімі крокамі цераз надзвычайнае напружаньне энэргіі ўсіх працоўных і самую жорсткую клясавую барацьбу вядуць нас да сацыялістычнай бясклясавай грамады, у якой канчаткова зьнішчаецца дагэтуль яшчэ ня выжытая цяжкая спадчына шматвяковага мінулага—фактычная няроўнасьць працоўнай жанчыны ў агульнай сям'і працоўных. **Ц. Вінаградаў.**

# Вучот і інфармацыя ў акрвыканкомах па масавай рабоце саветаў.

Рэарганізацыя сельскае гаспадаркі на аснове яе калектывізацыі і рашучае выкарчоўваньне капіталістычных элемэнтаў на вёсцы патрабуе ад нізавых ячэек савецкай сыстэмы—сельскіх і местачковых саветаў—надзвычайнай вытрыманасьці ў правядзеньні цьвёрдай клясавай лініі, патрабуе напружанай работы, арганізаванасьці і падтрыманьня дзейнасьці саветаў з боку батрацка-бядняцкіх і серадняцкіх мас вёскі.

Калі сельскі ці местачковы савет здолее ў работу савета ўцягнуць гэтыя працоўныя масы, калі яны (масы) праз удзел у камісіях, праз удзел на пленумах і прэзыдыумах савету, будуць дапамагаць яму ў рабоце, калі ў сельскім ці ў местачковым савеце будзе добра пастаўлена масавая работа—савет з пастаўленымі перад ім задачамі справіцца.

Задача непасрэднай дапамогі саветам, іх інструктаваньне і палепшаньне арганізацыйна-масавай работы ў акругах—ускладзена на арганізацыйна-інструктарскія часткі акрвыканкомаў.

Аднак, колькасны склад работнікаў гэтых частак настолькі малы, што значнае непасрэднае дапамогі саветам у галіне пастаноўкі масавай работы—інструктарскія часткі АВК аказаць ня могуць—і вывучаць гэтую работу непасрэдна ў саветах ізноў такі інструктарскі апарат АВК ня мае магчымасьці, бо абсьледваньне некалькіх (10-15) саветаў у акрузе яшчэ ня можа быць падставаю для высьвятленьня пастаноўкі масавай работы ва ўсіх саветах акругі.

Між тым дапамагаць саветам у іх масавай рабоце, выпраўляць памылкі, накіроўваць дзейнасьць па належным рэчышчы, у поўнай меры магчыма толькі тады, калі акрвыканком ведае, як пастаўлена масавая работа ў кожным раёне, кожным гарсавеце, стала сочыць за гэтаю галінаю дзейнасьці саветаў і своечасова рэагіруе на паслабленьне масавай работы ў тым ці іншым раёне, гарсавеце.

Акрвыканкомы маюць магчымасьць вывучаць пастаноўку масавае работы саветаў ня толькі праз непасрэднае абсьледваньне саветаў, але і праз распрацоўку тых матар'ялаў, якія паступаюць ад Райвыканкомаў і гарсаветаў. Аднак гэтай справе не зварочваюць патрэбнае ўвагі, чаму Арг'аддзел ЦВК БССР прымушан пісаць у АВК дзесяткі напамінкаў, каб атрымаць адказ на пытаньне, якое патрабуе зьбіраньня матар'ялаў і іх прапрацоўкі ў АВК (вылучэнства, работа сярод жанчын і г. д.).

Па Магілеўскай акрузе некаторымі РВК на працягу паўгода не заслухоўваліся даклады сельсаветаў; АВК аб гэтым ня ведаў (бо пратаколы райвыканкомаў не вывучаліся) і своечасова не рэагаваў. Райвыканкомы зусім не завастралі ўвагі саветаў на залучэньне камісій у работу па правядзеньню розных кампаній—АВК ізноў на гэта не рэагаваў, бо паступаючыя матар'ялы з РВК і гарсаветаў не распрацоўваліся, а ў выніку—паслабленьне работы камісій сельскіх і местачковых саветаў і сэкцый гарадзкіх саветаў.

У акрвыканкомах ёсьць штатная адзінка—інфарматар, які і павінен займацца справаю распрацоўкі і суміраваньня розных матар'ялаў, але неяк да гэтага часу вучот і інфармацыя ў Акрвыканкомах не занялі належнага ім месца, інфарматары скарыстоўваюцца як пратакалістыя, нагружаюцца справамі аб „лішэнцах", альбо якою небудзь іншаю работаю, а ўся работа па вучоту і інфармацыі абмяжоўваецца выкананьнем даручэньняў Арг-Аддзелу ЦВК БССР (да рэчы сказаць—і то заўсёды з спазьненьнем).

Адным словам—вучот і інфармацыя ў акрвыканкомах зьяўляюцца „ўдарнымі": трэба якія-небудзь веды—ну і „пашла пісаць губэрнія"—пасыпаліся цыркуляры, тэлеграмы, телефонаграмы, напамінкі і пагрозы ў аддзелы і райвыканкомы; што-колечы наскрабецца, напішацца адказ—і з плеч далоў,—ізноў супакой да наступнага заданьня.

Не гаворачы ўжо аб тым, што карысьці ад такой пастаноўкі справы вучоту і інфармацыі вельмі мала—спынюся

на тых момантах, якія, па маёй думцы, павінны быць асноўнымі ў рабоце па вучоту і інфармацыі ў акрвыканкомах.

*Першае— сваячасовае прадстаўленьне справаздач і іншых інфармацыйных матар'ялаў саветамі і райвыканкомамі ў Акрвыканком,* а Акрвыканкомамі з свайго боку ў АргАддзел ЦВК.

Несваячасовае прадстаўленьне матар'ялаў—*адна з заядлых, яшчэ* да гэтага часу ня зжытых, хвароб савецкага апарату. Гэтая неакуратнасьць, расхлябанасьць выклікае непатрэбную цеганіну, выклікае непатрэбныя выдаткі і ў выніку,—прысланыя з спазьненьнем матар'ялы—трацяць сваю каштоўнасьць—(бо здараецца, што „спазьненьне" расьцягваецца на паўгода і больш).

Другое—нельга глядзець на вучот і інфармацыю ў Акрвыканкомах як на механічнае складаньне лічбаў па справаздачах райвыканкомаў і саветаў, а на інфарматараў—як на архіварыусаў, толькі зьбіраючых і захоўваючых розныя сводкі па арганізацыйна-масавай і іншых галінах дзейнасьці выканкомаў і саветаў, ды займаючыхся фізкультурай на лічыльніках (счетах).

У інструктарскія часткі акрвыканкомаў паступае шмат розных матар'ялаў, менавіта: пратаколы райвыканкомаў, гарсаветаў і некаторых сельскіх і местачковых саветаў, вывады па абсьледваньнях выканкомаў і саветаў інструктарамі АВК, справаздачы аб арганізацыйна-масавай рабоце і інш., сводкі аб правядзеньні па акрузе розных кампаній і г. д.

Гэтыя матар'ялы адлюстроўваюць у сабе даволі поўна розныя галіны дзейнасьці саветаў і выканкомаў. *Дасканалае, усебаковае і сыстэматычнае вывучэньне гэтых матар'ялаў і аналіз розных лічбовых даных, як па арганізацыйна-масавай, так і гаспадарчай дзейнасьці саветаў і выканкомаў*—бязумоўна давалі-б Акрвыканкомам магчымасьць заўсёды ведаць аб становішчы арганізацыйна-масавай работы ў акрузе і слабых яе вучастках.

Трэцяе—патрэбна сваячасовае суміраваньне ўсіх гэтых матар'ялаў, прапрацоўка вывадаў (за тры м-цы работы, за паўгода) усёй інструктарскай часткаю АВК, *сваячасовае рэагаваньне* на ўсе заўважаныя (у даным пэрыядзе) памылкі і недахопы арганізацыйна-масавай работы саветаў і выпрацоўка канкрэтных паказаньняў па палепшаньню тых ці іншых вучасткаў гэтае работы.

Затым асобным пытаньнем зьяўляецца спосаб распрацоўкі матар'ялаў. З матар'ялаў неабходна выбіраць найбольш каштоўнае, найбольш яскравае, характарызуючае жыцьцёвыя пытаньні бягучага часу, выяўляючае ўсе адмоўнае.

Гэта вымагае ад работніка, які займаецца распрацоўкаю матар'ялаў, адпаведнага палітычнага і агульнага разьвіцьця, знаёмства з савецкаю работаю. (Да гэтага часу работа інфарматара расценьвалася ніжэй работы тэхсакратара).

Некалькі слоў аб якасьці інфармацыйных матар'ялаў. У прыватнасьці аб справаздачах райвыканкомаў. Складаюцца гэтыя справаздачы (аб арганізацыйна-масавай рабоце) няўважліва. Напрыклад, па справаздачы Клімавіцкага РВК пасяджэньняў пленумаў і прэзыдыумаў саветаў адбылося больш, чым прысутнічала на іх (пасяджэньнях) членаў саветаў і адлегласьць сельсаветаў ад цэнтру раёна мэханічна складзена, і ў справаздачы гэтага-ж РВК паказана, што „адлегласьць саветаў ад цэнтру раёна 268 кілёмэтраў" і г. д.). Усё гэта, вядома, драбніцы, але яны характарызуюць адносіны да складаньня інфармацыйных матар'ялаў, а тымі матар'яламі, якія гроша ломанага нvarты—няма карысьці займацца і дарэмна траціць час.

Практыка работы вопытна-паказальнай—Віцебскай акругі—трэба думаць, будзе перанесена і ў астатнія акругі. У сувязі з гэтым узмацненьне кіруючай ролі акрвыканкомаў вымагае больш адказнасьці і лепшага зьместу работы арганізацыйна-інструктарскіх частак АВК і, у прыватнасьці, палепшаньня пастаноўкі справы вучота і інфармацыі.

Вучот і інфармацыя павінны заняць у акрвыканкомах належнае ім месца.

А. Д.

# ЯК ПРАХОДЗЯЦЬ ПЕРАВЫБАРЫ САВЕТАЎ.

Ужо прайшла палова тэрміну справаздачна-праверачнай і перавыбарчай кампаніі саветаў. Аднак, на мясцох значна позьняцца з разгортваньнем мерапрыемстваў па кампаніі і яшчэ больш дрэнна інфармуюць цэнтр, што не дае магчымасьці сваячасна заўважыць прарывы на паасобных вучастках і зрабіць захады для іх ліквідацыі. А прарывы ёсьць у шэрагу месц, як відаць ужо з адрывачных матар'ялаў аб папярэдняй падрыхтоўчай рабоце.

Паводле вестак, што зараз маюцца ў Цэнтральнай Выбарчай Камісіі, датэрміновымі перавыбарамі ахопліваецца большасьць—1287, або 87,4 проц. агульнага ліку (1473) саветаў, што маецца ў БССР.

Гэта значыць, што мы маем колькасна амаль поўную перавыбарчую кампанію, тым больш, што ў шэрагу раёнаў, а на Менскай акрузе нават і ва ўсіх раёнах, адбудуцца і Раёныя Зьезды Саветаў.

Улічваючы ўсю вялізарную палітычную важнасьць гэтай кампаніі, якая супадае і праводзіцца ў непасрэднай сувязі з суцэльнай калектывізацыяй і, зьвязанай з апошняй, ліквідацыяй кулацтва як клясы; улічваючы, што тэрміны кампаніі максымальна сьціснуты, каб узгаловіць веснавую сяўбу, напярэдадні якое мы стаімо, ужо новымі, такімі, што стаяць на поўнай вышыні сваіх задач, саветамі,—улічваючы ўсе гэтае, неабходна злучэньне выключнай ударнасьці тэмпаў правядзеньня кампаніі з найдасканалейшай яе арганізацыяй.

Паміж тым, у шэрагу месц мы маем тут недапушчальную маруднасьць.

Ня будзем паўтараць таго, аб чым ужо пісалася ў друку. Вось характэрныя прыклады.

У Бабруйскай акрузе на 18 лютага нават арганізацыя сельскіх выбарчых камісій была яшчэ скончана толькі ў 3-х раёнах, а ў Полацкай—да арганізацыі сельвыбаркомаў толькі прыступілі з 15-17 лютага.

Член Магілеўскага Гарсавету з Глухаўскага с-савету, Быхаўскага раёну (Магілеўшчына) яшчэ 20 лютага пісаў, што ў с-савеце насельніцтва нават ня ведае, што будзе кампанія і ніхто нічога ня робіць.

Бешанковіцкі райвыканком (Віцебшчына) толькі 15 лютага паставіў пытаньне аб справаздачна-праверачнай і перавыбарчай кампаніі і пастанавіў распачаць кампанію 25 лютага, а Шклоўскі РВК (Магілеўшчына) распачынае кампанію яшчэ пазьней—з 1 сакавіка. Журавіцкі РВК толькі на 20-II назначыў зацьверджаньне плянаў кампаніі і складу сельвыбаркомаў. Таксама і з формамі выбарчай справаздачнасьці і рассылкай усялякіх іншых матар'ялаў мясцом. Бабруйскі, Магілеўскі і Полацкі АВК толькі 15—18 лютага прыступілі да гэтае справы.

Побач з гэтым у іншых мясцох, дзе да кампаніі прыступілі параўнаўча „сваячасова", падрыхтоўка кампаніі і складаньне яе плянаў праведзена з такою сьпешкаю, што забыліся аб шэрагу такіх „дробязяў", як, напрыклад, правядзеньне папярэдняй работы сярод жанчын і нацменшасьцяй нават сярод беднаты (паведамленьне Аршанскага АВК), уключэньне ў пляны кампаніі і прыцягненьне да ўдзелу ў ёй прафэсыянальных і іншых грамадзкіх арганізацый. У Багушэўскім раёне кампанія ўжо пачалася, а РВК яшчэ ня мае каляндарнага пляну. У Аршанскім раёне плян ужо сарваны.

Гомельскі АВК даў дырэктыву:—„Аднавіць працу выбарчых камісій", а каб праверыць і перагледзець іх склад—і не падумаў, а як прышла пара пачынаць кампанію,—аказалася, што падрыхтоўка не праведзена. Гомельскі АВК замест таго, каб хутчэй наладзіць справу, просіць у ЦВК па тэлеграфу адтэрміноўку да 1 красавіка. У шэрагу месц не вядзецца ніякай работы па падрыхтоўцы і падбору кандыдатур у новыя саветы і замест адклікаемых.

Аб падачы раёнам асноўных пачаткаў наказу будучаму складу саветаў, наколькі можна судзіць з наяўных вестак, паклапаціліся толькі ў Віцебскай акрузе.

Заўважаны выпадкі агіднейшых перагібаў пры пазбаўленьні выбарчых правоў. Напрыклад, ёсьць выпадкі пазбаўленьня выбарчых правоў беднякоў і сераднякоў, што не зразумелі яшчэ неабходнасьці калектывізацыі і не хацелі ўступаць у калгас. Ёсьць выпадак пазбаўленьня выбарчых правоў батрака-

пастуха, які з прычыны сваёй хворасьці (і дагэтуль яшчэ ляжыць у больніцы), перадаў сваю працу на тых-жа ўмовах, што працаваў і сам, іншаму (Бягомльскі раён).

Пры агульным разбуйненьні выбарчых вучасткаў, некаторыя раёны ўсё-ж зрабілі нават крок назад у параўнаньні з мінулай кампаніяй, ня толькі не разбуйніўшы, але яшчэ больш узбуйніўшы выбарчыя вучасткі. Напрыклад, у Бялыніцкім і Клімавіцкім раёнах ня рэдка можна сустрэць вучасткі, што яднаюць 600 і больш чалавек, маецца нават выпадак, калі на вучастак прыпадае 1200 чалавек; ну, а памяшканьняў адпаведных, зразумела, няма і наперад можна сказаць, наколькі ўдала там пройдзе кампанія, калі памылкі ня будуць сваячасна выпраўлены.

Адным з станоўчых бакоў гэтай кампаніі зьяўляецца шырокая дапамога мясцом пасылкай адказных працаўнікоў і рабочых брыгад з гораду. Перш за ўсе для дапамогі і ўдзелу ў правядзеньні кампаніі прыцягваюцца ўсе тыя кадры (а іх даволі многа), што ўжо раней працуюць у вёсцы па калектывізацыі, загатоўках веснавой сяўбе і г. д.

Апрача таго, у зьвязку з справаздачна-праверачнай і перавыбарчай кампаніяй, накіроўваецца дадаткова шэраг працаўнікоў. Аршаншчына, напрыклад, паслала 14 рабочых брыгад па 3 чалавекі ў кожнай і 30 работнікаў акруговых устаноў. У Віцебшчыне ўжо падабрана 50 рабочых для пасылкі на сталую працу ў саветах. Гомельшчына пасылае на вёску 45 рабочых для сталай працы ў с-саветах і яшчэ 30 рабочых на час кампаніі. У Магілеўшчыне накіравана дадаткова на перавыбары ў вёску 100 рабочых па лініі АСПС, 30 дэпутатаў гарсавету, 16 чалавек па лініі АК ЛКСМБ, і 18 прысланых з Менску камвузаўцаў. На Мазыршчыне Калінкавіцкі гарсавет вылучыў на вёску 31 дэпутата і накіраваў 15 рабочых брыгад. Менская акруговая выбарчая камісія камандыравала па прадстаўніку ў кожны раён; з Менску-ж накіравана 40 рабочых-дэпутатаў гарсавету на сталую працу і 25 чалавек на час кампаніі.

Калі зьвернемся да гарадзкіх саветаў, дзе таксама павінна быць праведзена справаздачна-праверачная кампанія, то там, у шэрагу гарсаветаў (асабліва раённых), праца разгортваецца яшчэ больш марудна.

Прэзыдыум Рагачэўскага гарсавету толькі 17 лютага ўпяршыню паставіў пытаньне аб справаздачна-праверачнай кампаніі і чамусьці рашыў на гэты раз абвяшчаць выбаршчыкаў бяз позваў.

Рэчыцкі гарсавет таксама толькі 17 лютага ўспомніў, што трэба праводзіць справаздачна-праверачную кампанію і вынес пастанову, якая мусіць так і застанецца адзіным клясычным прыкладам недаацэнкі і бюрократызацыі важнейшай палітычнай кампаніі. Вось гэтая пастанова: „лічыць неабходным даізбраць 9 дэпутатаў замест выбыўшых і 11—замест тых, якія падлягаюць адкліканьню"—і больш нічога. Прэзыдыум гарсавету, бачыце, ня пытаючыся выбаршчыкаў, сам за іх вырашыў наперад, колькі і каго трэба адклікаць.

Недалёка ад Рэчыцкага гарсавету адстаў і Веткаўскі. 15 лютага гарсавет пастанавіў: вылучыць выбарчую камісію ў такім-та складзе, разьбіць на столькі-та вучасткаў, зрабіць плян правядзеньня сходаў, прымацаваць дакладчыкаў—і ўсё. Пра масавую падрыхтоўку кампаніі, пра праверку работы гарсавету—няма і паміну.

З усіх гарсаветаў, пакуль што, толькі па гор. Воршы нам вядомы добра распрацаваны плян масавай справаздачна-праверачнай кампаніі гарсавету. Там з 15 па 25 лютага будуць праводзіцца сходы рабочых і служачых па прадпрыемствах і ўстановах, з дакладамі аб задачах кампаніі, на якіх сходах будуць вылучацца брыгады для праверкі работы савету. З 25 лютага па 15 сакавіка на сваіх вучастках будуць адлічвацца ўсе дэпутаты і па аднэй сэкцыі на кожным вучастку, а пасьля гэтага ўжо будзе адлічвацца Прэзыдыум гарсавету на куставых (яднаючых 2-3 вучасткі) сходах.

Спазьненьне падрыхтоўкі прывяло і да спазьненьня разгортваньня самае кампаніі. У выніку гэтага к пачатку другое паловы тэрміну кампаніі маюцца весткі аб адбыўшыхся перавыбарах толькі ў якіх-небудзь дзесятку — другім саветаў Менскай, Магілеўскай і Аршанскай акруг.

Па іншых акругах, відаць, да 25 лютага—1 сакавіка—перавыбары яшчэ не распачыналіся.

Калі ў аб'ёме надзвычайна кароткіх тэлеграфных, лічбавых вестак, пра ход кампаніі маюцца хоць даныя па некалькіх с-саветах, то зусім няма яшчэ з месц ніякіх матар'ялаў аб тым, як праведзена падрыхтоўка, як складзены выбарчыя камісіі, тым больш пра тое, як праходзіць самая кампанія, у якіх формах і вакол якіх пытаньняў разгортваецца клясавая барацьба на справаздачна-перавыбарчых сходах і г. д.

Лічбовыя вынікі перавыбарчай кампаніі, атрыманыя па тэлеграфу, паказваюць, што ў асноўным дырэктывы аб прыстасаваньні складу с-саветаў да сучасных задач сацыялістычнага будаўніцтва і максымальным прыцягненьні працоўных на справаздачна-перавыбарчыя сходы знаходзяць свой адбітак у жыцьці. Павялічылася яўка наогул і яшчэ больш узрасла яўка жанчын у стасунку да ўсяе колькасьці выбаршчыц, што сьведчыць аб далейшым падцягваньні актыўнасьці жанчын-сялянак і выраўніваньні яе з актыўнасьцю мужчынскай часткі выбаршчыкаў.

У складзе новаабраных саветаў мы таксама маем далейшы рост проціанту жанчын.

У складзе новых саветаў павялічыўся, хаця недастаткова, проц. рабочых і батракоў, сялян, аслабанёных ад падатку, прычым 81,1 проц. усіх выбраных зьяўляецца калгасьнікамі.

Зьмены партыйнага і камсамольскага складу перавыбраных сельсаветаў паказваюць рост проціанту камуністых і зьмяншэньне камсамольцаў.

Задача органаў, якія кіруюць кампаніяй—забясьпечыць, каб станоўчае з гэтых вынікаў было яшчэ больш замацавана і пашырана пры адначасовым падцягваньні вузкіх месц.

Неабходна яшчэ адзначыць, што, як гэта ня дзіўна, але нідзе ня чуваць, каб дагэтуль, у мэтах разгортваньня і забясьпечаньня лепшых вынікаў кампаніі, быў ужыты выпрабаваны мэтад сацыялістычнага будаўніцтва і мабілізацыі актыўнасьці працоўных — сацыялістычнае спаборніцтва. Саветы, выканкомы і выбарчыя камісіі, уся наша грамадзкасьць павінны як найхутчэй у такое спаборніцтва ўключыцца.

Галоўнейшая і неадкладная задача моманту—падцягнуцца і падцягнуць каго трэба, ліквідаваць прарывы і хібы па лініі справаздачна-праверачнай і перавыбарчай кампаніі саветаў. Важнейшай прадпасылкай гэтага зьяўляецца зьнішчэньне разрыву паміж саветамі, з аднаго боку, раённымі і акруговымі выканкомамі ды цэнтрам—з другога, шляхам дасканала наладжанай рэгулярнай, частай і поўнай інфармацыі вышэйшых зьвеньняў ніжэйшымі зьнізу даверху.

Гэтая інфармацыя па ведамсьцевай лініі абавязкова павінна быць дапоўнена сувязьзю з пасланымі на мясцы працаўнікамі і рабочымі брыгадамі.

Работнікі ўстаноў і рабочыя, што знаходзяцца непасрэдна ў пунктах разгортваньня кампаніі, мясцовыя працаўнікі, актыў і рабвяскоры магчыма часьцей павінны пасылаць матар'ялы аб кампаніі ў цэнтральны друк, у прыватнасьці, у спэцыяльны орган ЦВК па пытаньнях савецкага будаўніцтва — „Саветы Беларусі".

**А. Баркан.**

1-га сакавіка, 1930 г.
г. Менск

# Бяз крытыкі касьцянее апарат.

Барацьба з бюракратызмам, за спрашчэньне і патаненьне савецкага апарату, за рацыяналізацыю і набліжэньне яго яшчэ больш да працоўных мас, стаіць у нашых умовах асаблівай, важнейшай задачай сёньнешняга дня. Для гэтага неабходна больш шырока крытыкаваць за памылкі і недахопы ня толькі паасобных адказных работнікаў, але таксама трэба больш рашуча крытыкаваць і ўстановы—„ад нізу да верху і ад верху да нізу, ня глядзячы на асобы“. Напрыклад, зусім амаль ня крытыкуюцца цэнтральныя савецкія ўстановы—ЦВК, СНК, НКЮ, НКУС, ВСНГ і іншыя з боку саветаў, выканкомаў і паасобных таварышоў. Няўжо ўсе тыя дырэктывы, цыркуляры, формы, бясконцыя зьмены артыкулаў крымінальнага і іншых кодэксаў і шмат рознай іншай пісаніны пападае акурат у „кропку“ для нізавога савецкага і адміністрацыйнага апарату? Здаецца, што яшчэ ў многіх моцна думка сядзіць—„ня крытыкуй вышэй сябе рангам“. Вось, райвыканкому можна ва ўсю „глушыць“ крытыкай сельсавет, а крытыкнуць акрвыканком, ЦВК тут ужо „гайка слаба“, нібы гэта і ня наша справа.

Дзякуючы такому „пакорліваму“ настрою нізавога савецкага апарату ў справе крытыкі да вышэйстаячых устаноў, якія, калі пакапацца, таксама крытыкаваць ёсьць шмат за што, ствараецца ўражаньне, што ўсё „добра“, ніякіх „памылак няма“ ў цэнтральных установах. А што, тыя, нярэдка „мэтравыя“ цыркуляры ці „галаваломныя“ формы, якія бывае нават цяжка і прачытаць на мясцох, ці, калі на якое-небудзь запытаньне месяцамі не атрымліваеце адказ,—усё гэта здавальняе нізы? Здаецца не! Ціханька, у сябе на месцы, моцна лаюць цэнтральныя ўстановы за цяганіну, бюракратызм, за цяжка разьбіраемыя інструкцыі, абежнікі і іншыя недарэчнасьці,—а, каб раскрытыкаваць за недахопы праз друк, які зьяўляецца рупарам для крытыкі—гэтага ў нас яшчэ няма.

Справу па крытыцы цэнтральных устаноў нізамі трэба разварушыць, каб не касьцянеў апарат, нам, кажучы словамі т. Сталіна, „як паветра, як вада“ неабходна крытыка.

В-аў.

---

**Рашуча разгорнем крытыку і самакрытыку, ня гледзячы на асобы, зьверху да нізу і зьнізу да верху.**

---

# За скарачэньне пасад рэгістратараў РВК.

*(Рацыяналізатарская прапанова).*

З 1-га студзеня 1930 году неабходна скараціць пасаду рэгістратара РВК.

Чым выклікана гэта неабходнасьць?

Па-першае—рацыяналізацыяй апарату, а па-другое — нямэтазгоднасьцю існаваньня такой пасады.

Як будзе без рэгістратара? Кожны аддзел Райвыканкому мае свае пранумараваныя справы. Вось пры скасаваньні рэгістратара справавод кожнага аддзелу будзе ставіць на паперы нумар справы, да якой адносіцца папера.

Напрыклад, абежнікі—(справа № 1)—г. зн. адносіна № 1/а.

Справа ваенна-падлеглых № 3—адносіна № 3/в.

Пасьля кожнага № ставіцца першая літара аддзелу: вайсковы—в, агульны—а і г. д.

Такі парадак мы ўжо маем у фін-

частках РВК, дзе паперы праз рэгістратуру не праходзяць.

Для таго, каб было відаць, што папера (напрыклад, абежнік АВК, ці інш.) выканана, на ёй робіцца адзнака, напр. копія паслана ўсім сельсаветам 5-I 1930 г. пад № 1/а для выкананьня і г. д.

Ды наогул такія копіі і адзнакі маюцца і ў сучасны момант, пры існаваньні рэгістратуры.

Усе выкананыя паперы (за выключэньнем папер для с/саветаў, якія групуюцца ў папкі і рассылаюцца праз наведвальнікаў для эканоміі грошай па перасылцы) кожны справавод таго ці іншага аддзелу запакоўвае ў канвэрт, ці пасылку, і аддае пасланцу (паперы прыгатаўляюцца да дню адыходу пошты), які запісвае ў разносную і здае на пошту.

Што мы дасягаем пры такой пастаноўцы справы?

1. Эканомію сродкаў па ўтрыманьні рэгістратара (25 р. у месяц—300 рублёў у год).

2. Скасаваньне камбінаваных журналаў, якіх у год скарыстоўваецца 5—6 і якія дорага каштуюць.

3. Спрашчэньне працы,

бо пошта для кожнага аддзелу будзе пападаць зараз-жа па атрыманьні па належнасьці і выконвацца, ня будзе залежвацца па рэгістратуры, ня будуць губляцца і перабльтвацца паперы (як гэта бывае па рэгістратуры, дзе ў большасьці працуюць малавопытныя і малапісьменныя) і будзе магчымасьць прасачыць за выкананьнем, а таксама за напамінкамі, якія будуць пападаць па належнасьці і зараз-жа выконвацца.

Аб кожным выкананьні ў справе (той ці іншай) павінна мецца адзнака.

Вяскор **В. Ш.**

## Яшчэ аб спагнаньні гэрбавага збору.

Пастановай НКЮ, НКФ і НКУС БССР скасавана ўзіманьне гэрбавага збору за рэгістрацыю актаў грамадзянскага стану (ЗАГС) і рэгістрацыя шлюбаў, разводаў і інш. праводзіцца дармова.

Пастанова гэта была зьмешчана ў Бюлетэні СНК БССР за 1929 г. Але мусіць большасьць сельсаветаў з гэтай пастановай не знаёма, бо дагэтуль працягвае спагнаньне гэрбавага збору за рэгістрацыю шлюбаў і скасаваньне гэтакіх.

Тут адначасова могуць быць і злачынствы, бо працаўнікі сельсаветаў, якія ведаюць гэты закон, могуць браць грошы сабе ў кішэню (паколькі насельніцтва аб такім законе ня ведае), а пры рэвізіі будуць спасылацца на закон, на падставе якога рэгістрацыя звольнена ад гэрбавага збору; а другія—напрасна бяруць грошы і наклейваюць гэрбавыя маркі.

Я лічу неабходным растлумачыць насельніцтву гэту пастанову, а органам улады ў далейшым публікаваць такія пастановы ў газэтах.

Вяскор **М. А. К.**

---

**Рацыяналізуем і спросьцім савецкі апарат, наблізім яго да працоўных мас.**

# Адказы нашым дапісчыкам.

Т.т. **Дубовіку, Кагану** (Магілеў) і **Пукальчыку** (Грэск)—„Аб адміністрацыйным падзеле ў раёнах суцэльнай калектывізацыі“ пойдзе ў наступным нумары.

Тав. **Сіманоўскаму** (Бабруйск)—„Масавая работа сельскіх саветаў на Бабруйшчыне“—устарэла. Напішэце на гэтую тэму пад кутом погляду ажыцьцяўленьня саветамі галоўных задач сучаснасьці—суцэльнае калектывізацыі і ліквідацыі кулацтва, як клясы, арганізацыі батрацтва і беднаты і г. д.

Тав. **Дубовіку** (Магілеў)—„Работа гарсаветаў адстае ад запатрабаваньняў часу“—скарыстаем.

Тав. **Таўкачу** (Менск)—„Першая Ўсебеларуская Выстаўка Сельскае Гаспадаркі і Прамысловасьці“—ня пойдзе. Напішэце карацей (3-4 старонкі) для наступнага нумару.

Тав. **Шыманскаму** (Бягомль)—Два вашых допісы зьмяшчаем, рэшта не падыходзіць. Пішэце больш.

Усім нашым дапісчыкам, працаўнікам саветаў і выканкомаў, рабочым брыгадзірам і актывістым.—Пішэце ў наступны нумар пра справаздачна-перавыбарчую і перавыбарчую кампанію саветаў; як на справе кіруюць саветы калектывізацыяй, як рыхтуюць і арганізуюць вясновую сяўбу; аб працы камісій саветаў і г. д.

**РЭДАКЦЫЯ.**



**Выдае Прэзыдыум ЦВК БССР** Рэдактар—**Рэдкалегія.**

Менск, друк. БДВ. Заказ № 1389. 3.000 экз. Галоўлітбел № 1428.